# Ніва

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 9 (1868) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 1 САКАВІКА 1992 г. ЦАНА 1500 зл.



*1 сакавіка закончыцца цэнтральны агляд „Беларуская песня 92". Раней праводзіліся раённыя эліміпацыі, пераможцы якіх трапілі на эстраду ў Беластоцкай філармоніі. Аб эліміпацыях у Беластоку і ў Гайнаўцы чытайце на стар. 6 -7. На здымку: хор Беластоцкага аддзела БГКТ – адзін з лаўрэатаў раённага агляду.*

## ПАМІЖ МОЛАТАМ І КАВАДЛАМ

Трыццаць шэсць гадоў ужо існуе Беларускае грамадска-культурнае таварыства і на працягу гэтага доўгага перыяду так-сяк звязвала канцы з канцамі. Матэрыяльная сітуацыя таварыства ніколі не была раскошнай, аднак, „латаючы" і „звязваючы", неяк былі мы ў стане весці сваю работу сярод беларускага насельніцтва. Таварыства дабілася добрых памяшканняў у Беластоку, у Варшаве, у Гайнаўцы, у Бельску і ў Гданьску.

У 1990 годзе Таварыства перайшло з-пад Міністэрства ўнутраных спраў пад Міністэрства культуры і мастацтва. Такім чынам быў выкананы пастулат, які многа разоў ставіўся на паасобных з'ездах і пленарных пасяджэннях Таварыства. З фактам пераходу БГКТ пад Міністэрства культуры і мастацтва мы звязвалі вялікія надзеі, і трэба сказаць, што гэтыя надзеі апраўдаліся ў 1990 годзе, калі ўсе меншасныя таварыствы ў Польшчы атрымалі вялікую датацыю, якая дасягала 15 мільярдаў злотых. З гэтай сумы БГКТ атрымала болей чым тры мільярды. Асабліва моцна ў пазітыўным сэнсе адчулі мы паўмільярдавую датацыю для пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы. Зразумела, што такі стан рэчаў не мог не радаваць. Можна было ўвесці ў нашую дзейнасць многа новых форм. Усе мы былі поўны аптымізму і надзеі, думаючы, што вялікія датацыі з'яўляюцца сімптомам і знакам новай прыхільнай палітыкі з боку адроджанай Польшчы да нацыянальных меншасцяў. Так, аднак, не сталася, 1991 год прынёс многа расчараванняў. Датацыя паменшылася ў гэтым годзе амаль у тры разы. Былі ліквідаваны грошы на штаты, што пагражае меншасным арганізацыям поўным паралічам.

Найбольшая трагедыя звязана з тым, што Міністэрства ліквідавала датацыю на аплаты за нашы памяшканні. Пры гэтым аплаты гэтыя ўзрасталі ў шалёных размерах. Калі ў папярэднія гады мы за ўсе свае памяшканні плацілі па некалькі соцень тысяч злотых у месяц, то ў 1992 годзе павінны плаціць толькі за памяшканне ў Беластоку і ў Варшаве па дваццаць мільёнаў злотых у месяц. Гэта значыць, што на працягу года мусім заплаціць за гэтыя два памяшканні 480 мільёнаў злотых. Толькі падумайце самі, амаль паўмільярда! Дзе ўзяць такія астранамічныя сумы?! Думаю, што калі б мы распачалі зборку даткаў і складчын сярод беларусаў, дык здолелі б сабраць толькі нязначную суму, якой у ніякім выпадку не хапіла б на аплату памяшканняў. Хочам увесці адплатнасць за ўсякую форму карыстання з нашых будынкаў як з боку беларусаў, так і небеларусаў. Аднак, і гэта акцыя дае вельмі мізэрныя вынікі. І так, стаім сёння перад рэальнай небяспекай страты ўсіх нашых памяшканняў, бо вядома, што ніякім спосабам не будзем у стане ўносіць больш чым паўмільярдную суму кожны год за памяшканні ў Беластоку, Варшаве, Бельску, Гданьску і Гайнаўцы.

У сувязі з тым, што ў Беларускім музеі ўжо функцыянуе будынак „А", перанясем у яго сядзібу аддзела Беларускага таварыства ў Гайнаўцы, дзякуючы чаму перастанем плаціць чынш за гайнаўскае памяшканне. Аднак, такі выхад магчымы толькі ў Гайнаўцы. А што можам зрабіць з усімі іншымі нашымі памяшканнямі? Зразумела, што арганізацыя не можа дзейнічаць без канкрэтнага памяшкання. Хіба што мае яна падпольны характар. Але ж мы не толькі арганізацыя легальная, але і лаяльная ў адносінах да дзяржавы. Такім чынам апынуліся мы ў безнадзейнай сітуацыі, з якой можам выйсці толькі пры дапамозе дзяржавы. На жаль, усе нашы лямапты, якія мы кіравалі дагэтуль у Міністэрства культуры і мастацтва, ды нават да ўлад, не далі ніякага рэзультату. Дарэчы, былы прэм'ер Я.К. Бялецкі ўвогуле не адказаў на драматычны ліст, які скіравалі да яго

( Працяг на стар. 8 )

## ЧАМУ ЦАРКВЕ НЕЛЬГА КАРЫСТАЦЦА РОЎНЫМІ ПРАВАМІ?

Даўжэйшы час паміж прэзідэнтам Беластока Лехам Руткоўскім і архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім Савай ідзе спрэчка наконт забеспячэння патрэб вернікаў Праваслаўнай царквы. Праўда, усе лісты, накіраваныя прэзідэнту, разглядаюцца, але толькі віцэ-прэзідэнтам Эвай Бончак-Кухарчык, і таму ўзнікае пытанне, чаму прэзідэнт не фірмуе карэспандэнцыі сваім подпісам? Відаць, архіепіскап — неадпаведны партнёр.

Не сакрэт, што ў мінулым былі адабраны ў царквы землеўладанні, якія былі яе ўласнасцю. Адабрана была амаль уся зямля, нават могільнік вакол царквы св. Марыі Магдаліны, а таксама іншыя ўчасткі, на якіх зараз стаяць жылыя дамы або адміністрацыйныя будынкі, напрыклад, гмах Ваяводскай камендатуры паліцыі. Згодна закону, царква хоча ўзяць назад тыя дзялянкі, што размешчаны вакол сабора св. Мікалая і сядзібы архіепіскапа. На іх плануецца стварыць рэлігійны і культурна-асветны праваслаўны цэнтр, неабходны нашаму асяроддзю.

Ужо другі год працуе ў Беластоку катэхетычная студыя, якая рыхтуе настаўнікаў Божага Закону. З прычыны адсутнасці свайго памяшкання карыстаецца яна два разы ў тыдзень прыхадской залай. Хочам таксама стварыць праваслаўны ліцэй.

Плошча, якую патрабуем вярнуць Царкве, паводле інфармацыі віцэ-прэзідэнта горада будзе прызначана на паслугі. Абазначае гэта, што вакол Святамікалаеўскага сабора ўзнікнуць гандлёвыя і культурныя аб'екты, быццам бы папаўненне існуючаму пад бокам гарадскому нужніку.

Ці недзе ў Польшчы пры кафедральнай святыні і пры архіепіскапскай сядзібе плануецца будаваць аб'екты такога тыпу? Ці нельга ў Беластоку знайсці для іх іншае месца?

Пад час сустрэчы дэлегацыі Праваслаўнага брацтва з уладамі горада пані віцэ-прэзідэнт заявіла, што гэтыя дзялянкі будуць прадавацца на аўкцыёне, бо гарадская каса пустая. Але ці атрыманыя такім чынам грошы патушаць канфлікт, які можа ўзнікнуць з тае прычыны? Пастава гарадскіх улад стварае грунт да паглыблення канфліктаў у нашым — польска-беларускім, каталіцка-праваслаўным — асяроддзі. Ці такая мае быць роля гарадскіх улад?

Калі паглядзець на адносіны ўлад розных ступеней да рэлігійных арганізацый, дык верыць не хочацца, што аж так можна спрыяць адным і абмяжоўваць іншых, слабейшых. Не

( Працяг на стар. 8 )

## НА МЯЖЫ

### РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

**Частка V**

Гаворачы аб нацыяналізацыі веравызнанняў, якія дзейнічаюць на Беларусі, сніцца нам тая патрыятычная роля, якую выконваў і выконвае ў Польшчы Каталіцкі касцёл. Вядома, што касцёл не паддаўся ані русіфікацыі, ані германізацыі, ані аўстрыялізацыі. Ён стойка, мужна і паслядоўна бараніў польскасць. Абараніў яе не толькі на этнічных польскіх землях, але здолеў здабыць для яе душы і тэрыторыі на літоўскіх, беларускіх і ўкраінскіх землях. Мала гэтага, не толькі абараніў палякаў-католікаў, але павялічыў іх колькасць коштам літоўцаў, беларусаў і ўкраінцаў. Вось у гэтых фактах і праяўляецца вялікая сіла польскага каталіцызму. Што ж дзіўнага, што мы, беларусы, гледзячы на нацыянальную бяссільнасць беларускага праваслаўя і беларускага каталіцызму, са смуткам сцвярджаем: чаму ж і ў гэтай божай справе мы горшыя за ўсіх сваіх суседзяў, чаму ж Бог не паўплывае на беларускае духавенства і не скіруе яго на ўласцівую дарогу? Так ці інакш, думаю, што па страшным судзе ўсе тыя беларускія духоўныя, якія абыякава адносяцца да беларускіх нацыянальных спраў, будуць мець клопаты.

Хаця трэба сказаць, што зрух у гэтай важнай справе наступіў. Прыгадваюцца мне ўрачыстасці, прысвечаныя пяцісотгоддзю з дня нараджэння Скарыны, якія праводзіліся ў Акадэміі навук БССР. У часе навуковай сесіі выступіў з дакладам адзін з праваслаўных духоўных. Гаварыў ён па-беларуску, яго мова была беззаганная. Аднак, гэтым не вычэрпваецца маё шчасце. Я не звярнуў увагі на тое, хто сядзіць за мною, і, мабыць, не звярнуў бы, калі б не тое, што мае суседзі ззаду паўголасам размаўлялі на чыстай беларускай мове. Нешта такое з'яўляецца рэдкасцю на ўрачыстасцях падобнага тыпу нават у Акадэміі навук. Я не вытрымаў і азірнуўся. За мной сядзела трое маладых духоўных. Я спытаў іх, адкуль яны. Маладыя духоўныя адказалі, што яны з Жыровіч. Пасля даведаўся я, што ў Жыровічах знаходзіцца праваслаўная семінарыя і што ёсць у ёй беларускамоўныя і рускамоўныя класы.

Гэта, несумненна, радасныя факты. Аднак, мог бы я прывесці і дзесяткі фактаў адваротнага тыпу, калі праваслаўныя духоўнікі сварыліся са мною „у кроў" і даказвалі, што Праваслаўнай царкве ў Беларусі беларуская мова ўвогуле непатрэбная і што гэта мова знізіць аўтарытэт царквы ў народзе.

Як не дзіўна, але ў такім падыходзе да нацыянальнай справы Праваслаўная царква на Беларусі сышлася з Камуністычнай партыяй Беларусі, якая яшчэ ў пачатку 1991 года на сваім XXXI з'ездзе праявіла жалезную вернасць, адкідваючы нават ідэю прыняцця ўласнага статута. Паводле думкі дэлегатаў для беларускіх камуністаў найлепшым статутам з'яўляецца рускі статут КПСС. Бедалагі не зразумелі „ветру гісторыі" і не прадбачылі, што праз некалькі месяцаў Вярхоўны Савет БССР прыме дэкларацыю аб незалежнасці і Беларусь ва ўсіх сферах духоўнага жыцця мусіць стаць беларускай і не зможа быць у далейшым рускай. Гэтая ж блізарукасць, несумненна, характарызавала і Праваслаўную царкву, якая сёння з наяўнасцю душэўнага болю і разгубленасці мусіць пакідаць рэліктны стэрэатыпнага мыслення і прывычак і пераходзіць на грунт беларускага нацыянальнага мыслення. Будзе гэта працэс не толькі сапраўднага яднання з народам, але і сапраўднага служэння Богу, які напэўна не хоча, каб беларускае духавенства служыла рускаму, польскаму ці іншым чужым культурам, мовам і народам.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

*************************************************************************************************

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**У выніку пагаднення правадыроў Садружнасці Незалежных Дзяржаў у Мінску** адзінаццаць дзяржаўудзельніц вырашыла стварыць супольны абаронны бюджэт, які забяспечыць функцыянаванне аб'яднаных узброеных сіл. Украіна і Азербайджан згадзіліся фінансаваць толькі стратэгічныя сілы СНД, але катэгарычна адмовіліся ўтрымоўваць супольныя канвенцыянальныя сілы.

**Урад Беларусі** прыняў рашэнне аб стварэнні на поўнач ад Брэста, непасрэдна пры дзяржаўнай граніцы, першай у рэспубліцы **свабоднай гаспадарчай зоны.** У ёй будзе можна весці неабмежаваную гаспадарчую дзейнасць для беларускіх і замежных прадпрымальнікаў, якія будуць тут ствараць прадпрыемствы, іх філіялы і прадстаўніцтвы.

**Універсітэт праваслаўнай думкі** ўзнік у Беластоку па ініцыятыве Праваслаўнага брацтва і пры падтрымцы дэкана Гуманістычнага аддзялення Філіяла Варшаўскага універсітэта праф. **Ежы Капані.** Мэта універсітэта — пазнаёміць слухачоў з тэалагічнымі і філасофскімі поглядамі выдатных праваслаўных мысліцеляў. Інаўгурацыйны даклад на тэму „Значэнне эўхарыстыі ў Праваслаўнай царкве" прачытаў архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава**.

**Дэлегацыя з Беларусі** на чале са старшынёю Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў **Дзмітрыем Арцыменем** наведала Сувальскае ваяводства з мэтай наладзіць гаспадарчае супрацоўніцтва. Беларускі бок прапанаваў да продажу алюміній і карбамід (мачавіну), а сувальскі бок — збожжа і шпалы. Дагаворы наконт гандлёвага абмену будуць заключаць паасобныя прадпрыемствы.

**У Пунску** прабываў міністр нацыянальнай адукацыі праф. **Анджэй Стэльмахоўскі.** На сустрэчы з прадстаўнікамі літоўскай нацыянальнай меншасці міністр даў згоду на ўжыванне літоўскай мовы ў шыльдах школ, пячатках і школьных пасведчаннях. Заявіў ён таксама, што падручнікі да навучання літоўскай мовы для пачатковых школ будуць надрукаваны ў Польшчы.

Выйшаў з друку паэтычны зборнік **Дзмітрыя Шатыловіча „Эцюды падарожжа".** І хаця ў кніжцы няма метрыкі, мы даведаліся, што выдадзена яна за кошт аўтара ў Бельску-Падляшскім тыражом 700 экземпляраў.

**На ўсходняй граніцы** цвіце і развіваецца гандаль жывым таварам. Турысты перавозяць кантрабандай шчанят сабак розных парод, якіх у Польшчы можна прадаць нават за некалькі мільёнаў злотых. Каб уціхамірыць шчанюкоў перад таможным кантролем, пояць іх гарэлкай.

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### МАРКС І ЛЕНІН ПАЙШЛІ Ў ПАДПОЛЛЕ

Па распараджэнню намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі дэманціраваны помнікі Марксу і Леніну ля былога будынка ЦК Кампартыі Беларусі. „Аперацыя" заняла ў рамонтнікаў не больш дзвюх гадзін.

Адметна, што месца знаходжання каменных правадыроў сусветнага пралетарыяту трымаецца ў сакрэце. Адзін з адказных супрацоўнікаў Саўміна рэспублікі паведаміў толькі, што помнікі захоўваюцца на добраахоўваемай тэрыторыі. І яшчэ. У хуткім часе ў будынак былога ЦК КПБ перабярэцца парламент рэспублікі. Відаць, гэта акалічнасць і вырашыла лёс камуністычных ідалаў.

### ДЗЕ ПАЗЬНЯК, ТАМ АНШЛАГ

Сапраўдны аншлаг сабраў у Віцебскім тэатры імя Якуба Коласа Зянон Пазьняк. У тэатры, па словах відавочцаў, не было дзе яблыку ўпасці. Віцябчане з вялікай увагай выслухалі выступ парламенцкай апазіцыі БНФ адносна палітычнай і эканамічнай сітуацыі на Беларусі.

### ЯКІЯ ЛЮДЗІ! І Ў „НОВАЙ БЕЛАРУСІ"

Прапанову Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады аб стварэнні дэмакратычнага блоку „Новая Беларусь" падтрымалі не толькі дэмакратычныя партыі рэспублікі, але некаторыя прафесійныя саюзы і нават афіцыйныя асобы. Так новы блок падтрымаў былы партыйны работнік, а зараз міністр замежных спраў Беларусі Пятро Краўчанка і верны паплечнік Шушкевіча народны дэпутат Зміцер Булахаў. Сам Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі пакуль афіцыйна не выказаў сваіх адносін да „Новай Беларусі".

Дарэчы, менавіта падтрымка „Новай Беларусі" Пятром Краўчанкам і Зміцерам Булахавым насцярожыла кіраўніцтва БНФ. Зянон Пазьняк назваў гэта „спалучэннем неспалучаемага".

Зрэшты, БНФ таксама далучыўся да „Новай Беларусі" і тым самым развеяў чуткі аб расколе дэмакратычных сілаў рэспублікі.

### І ЗНОЎ „РЭЙКАВАЯ ВАЙНА"?

Рабочыя лакаматыўнага дэпо ў Оршы зноў гатовы распачаць „рэйкавую вайну". На гэты раз супраць Парламента і Урада Беларусі, калі тыя ў двухтыднёвы тэрмін не прымуць мераў па паляпшэнню ўмоў жыцця і працы чыгуначнікаў.

Дарэчы, да аршанцаў маюць намер далучыць і менскія чыгуначнікі. Відавочна, што агульная забастоўка дэпоўцаў загоніць кіраўніцтва Беларусі ў тупік.

### ЭХ, КАБ ЦЁМЕН НЕ БЫЎ...

23 фермеры з розных куткоў Беларусі ў хуткім часе адправяцца ў Нямеччыну на стажыроўку. На працягу 8 месяцаў беларускія сяляне павінны будуць дасканала авалодаць сучаснай тэхналогіяй вытворчасці экалагічна чыстай прадукцыі.

Усе выдаткі па аплаце страхоўкі, жылля і харчавання ўзяў на сябе нямецкі бок, дакладней, камітэт „Лебэн нах Чарнобыль". Акрамя таго, кожны са стажораў штомесячна будзе атрымліваць па 250 марак. Для нашых вяскоўцаў гэта цэлае багацце.

Зрэшты, беларускія сяляне не будуць сядзець у баўэра склаўшы рукі. Навучанне будзе ў асноўным практычным, гэта значыць, нашым фермерам давядзецца дапамагаць баўэрам на гаспадарцы. Нягледзячы на такую акалічнасць, жадаючых пастажыравацца ў Германіі было значна больш, чым вакансій. І толькі лепшыя з лепшых вытрымалі конкурс. Зараз шчасліўчыкі старанна вывучаюць нямецкую мову.

### РУСКІ, НЕМЕЦ І ПАЛЯК...

На Беларусі ствараецца Асацыяцыя грамадскіх нацыянальных арганізацый рэспублікі. Бацькамі-заснавальнікамі гэтага „інтэрнацыянала" з'яўляюцца лідэры яўрэйскай, польскай і нямецкай суполак, а таксама старшыня культурнага аб'яднання „Полісьсе" Мікола Шэляговіч. Асноўная мэта „інтэрнацыянала" — змагацца за нацыянальную роўнасць усіх нацыяў, што жывуць на зямлі беларускай. Праўда, разуменне роўнасці нацый у лідэраў нацменшасцяў вельмі своеасаблівае. Яны, напрыклад, патрабуюць прызнаць дзяржаўнымі мовамі разам з беларускай яшчэ і заходнепалескую (!), польскую і расейскую.

Дарэчы, Асацыяцыя гэта можа хутка стаць даволі ўплывовай на Беларусі сілай. Толькі ў Саюзе палякаў Беларусі — каля 18 тысяч чалавек, прыкладна 4 тысячы — у яўрэйскіх арганізацыях, немцаў у рэспубліцы больш за 3,5 тысячы. Нямала прыхільнікаў і ў „Полісься". Акрамя таго, да „інтэрнацыянала" далучылася таварыства татараў-мусульман і менскі нацыянальна-культурны цэнтр „Русь", неўзабаве тут з'явяцца ўкраінцы, армяне і літоўцы, што пражываюць на Беларусі.

### СЁСТРЫ КУРАПАТАЎ

КДБ Беларусі рассакрэціла новыя месцы масавых расстрэлаў рэпрэсіраваных. У трагічна вядомых Курапатаў у ваколіцах Мазыра з'явіліся сёстры па няшчасцю. У архівах КДБ рэспублікі адшуканы крымінальныя справы 2 тысячаў 892 чалавек, расстраляных ля вёсак Бярозаўка, Баравікі, Міхалкоўская Рудня, Гулевічы, Пеніца, Бабры, Боркі, Растокі і Бярэзніца.

Дарэчы, па дакументах, што захоўваюцца ў КДБ, у 20-40 гадах на тэрыторыі рэспублікі было расстраляна 25 тысяч 64 чалавекі. Але гэта толькі па прыгаворах і пастановах, а колькі іх бязвінна забітых сталінскімі катамі без суда і следства — пакуль невядома.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* У Войшках рук не апускаюць.
* Размова аб мінулым і будучым.
* Свята песні ў Бельску.
* Блакітная імгненні.
* Святыя беларускай зямлі – св. Андрэй Смаленскі.

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 387

ЯН ЧЫКВІН

***

Каму за сорак, той пазначаны ўжо
цёмным ценем смерці.
А ў цені светлай — ўсе й да сарака.
Ды кожны чалавек, які жыцця паспрабаваў
Гадоў тысячы і тысячы назад ці да жыцця з нябыту
Нейк праб'ецца праз якіх яшчэ мо мільён гадоў,
Стаяў і стане вось на гэтым хісткім
Раздарожжы дня і ночы;
Як быў, так будзе забаўкаю страшных моцаў Неба,
Спіраляў вечнай гіле і касмічных спазмаў...

Чаму пакінуў нас, жывых, жывейшы Параклет?

Нашто, нашто ўзірацца нам у вечныя агні,
Калі пайшоў ад нас Стваральнік чыстай дабрыні?

Перад той вечнасцю — рухомай, непасціжнай —
Збірае розум моц усю сваю і сілу;
Ён — адзіны ў Сонечнай сістэме —
Чытае кнігі мудрасці *Канджур, Танджур,*
Старэйшыя чым сама Зямля:

*Яны прыбылі з вельмі аддаленых мейсц*
*На Небе, каб даследаваць людзей.*

**(Са зборніка „Кругавая чара")**



УЛАДЗІМІР ГАЙДУК

**ВАЛОШКА**

Валошка, валошка
У жыце цвіце.
Валодзька, Валодзька
Мяжою ідзе.

Чаму ж не нарваў
На букет для Марыны?
Відаць, шкадаваў
Пялёстак нявінных.

Відаць, шкадаваў
Далікатных пялёстак,
Каб вечна цвіла
Сінявокай валошка.

Гады праміпулі,
Валошка цвіце.
Другі ўжо Валодзька
Мяжою ідзе.



***

Адзінота раздзірае грудзі,
Кропелькі дажджу у снежны дзень
Паўтараюць, паўтараюць: жыць ты будзеш
Пасярод шумлівых дрэў — не пасярод людзей.

Што ж, прывык, прыгас і прыгубіўся,
Прызвычаіўся не бачыць і не адчуваць.
А здаецца вечарам, што ты як быццам
Мне ізноў — жывая, мілая, мая.

Памятаеш, як былі мы разам?
Як далёка той салодкі ўспамін!
З рук у рукі ходзіць чарка кругавая
І злучае нашыя навек пражытыя гады.

**Да трыццаціпяцігоддзя літаратурнай творчасці Яна Чыквіна**

# Цёмная дарога цярпення і надзеі

**МАСТАЦТВА ДАМАГАЕЦЦА АРЫГІНАЛЬНАСЦІ. АРЫГІНАЛЬНАСЦЬ ГЭТА ЯГО РАСПАЗНАВАЛЬНАЯ РЫСА, НАЙБОЛЬШ ВАРТАСНАЯ Ў НАШ ЧАС.***

Тэарэтычным меркаванням Яна Чыквіна аб мастацтве адпавядае яго літаратурная практыка, вымоўным прыкладам чаго з'яўляецца апошняя паэтычная кніга пад сімвалічным, многазначным загалоўкам **„КРУГАВАЯ ЧАРА"**. Адметнасцю гэтага зборніка вершаў ёсць іх тэматычная ды кампазіцыйная арыгінальнасць, захоўваючая пры гэтым вельмі характэрную для ўсёй дагэтуляшняй творчасці паэта універсальную накіраванасць.

Катэгорыя універсальнасці ахоплівае цэлую кнігу. Нават яе графічнае афармленне выконвае ролю і інтэрпрэтацыі і адметнага дапаўнення паэтычнага зместу. Няма нічога тут выпадковага. Залаты колер вокладкі, чорная стылізаваная чара, графічна-мастацкія застаўкі з раслiннымі ці культурнымі матывамі, прадуманае размяшчэнне тэкстаў, фатаграфіі аўтара — усё гэта стварае грунтоўна спланаваную і па-мастацку цікава скампанаваную сімвалічную візію паэта і мастака-графіка — двух уражлівых ды таленавітых аўтараў з самабытным уяўленнем ды сваеаблічным эстэтычным пачуццём. Аб арыгінальнасці кніжкі гавораць таксама архетыпы і сімвалы, якімі так выразна насычаны паэтычныя тэксты Яна Чыквіна, пачынаючы ад фарбаў, „мовы" колераў праз шматзначнасць паэтычных вобразаў да вядомых у еўрапейскай культуры знакаў з падвойным значэннем, што і прыдае ім сімвалічную накіраванасць.

Катэгорыя непаўторнасці тычыцца таксама формы змешчаных у зборніку твораў. Тут ужо не дамінуе традыцыйны класічны верш. З добрым поспехам паэт выкарыстоўвае наватарскія фармальныя пошукі польскай літаратуры. Напрыклад, верш „Фліртусь" дык напэўна, на маю думку, а — магчыма — і „Пінь-пінь, тах-тах" заінспіраваныя былі творчасцю Мірона Бялашэўскага. І справа тут зусім не ў звычайным перайманні. Перш за ўсё адчуваецца жаданне выпрабаваць гнуткасць беларускай мовы, патрэбу даследавання: ці як паэтычная аснова паддаецца яна падобным, як хоць бы польская мова, магчымасцям выказвання? Зачароўвае зусім бездзеяслоўны твор „Сцежка", захапляюць сціплыя, ёмістыя, замкнёныя выразнай пуэнтай тэксты „Хацеў зрабіць крэсла" і „Сядзім... А нехта




навівае", якія з'яўляюцца наследаваннем хайку, жанра — узнікшага у XVII ст. — японскай лірычнай паэзіі з яе асноўнай формай танка. Майстрам яе ў японскай літаратуры быў Мацуа Басё (1644-1694), у Польшчы гэтым жанрам займаўся Ярослаў Івашкевіч (гл. цыкл „Уты"). У беларускамоўнай літаратуры ў Польшчы жанр гэты паяўляецца ўпершыню якраз у творчасці Яна Чыквіна як доказ невычэрпных творчых яго магчымасцяў і багацця ўяўленняў паэта. Прысутнасць такога тыпу твораў ахоўвае таксама і чытача перад манатоннасцю альбо схематычнасцю, якімі грашаць, на жаль, многія зборнікі іншых паэтаў. І вось гэты спраўны літаратурны варштат дазваляе акрэсліць творчасць Яна Чыквіна як паэзію самай высокай пробы.

**ЁСЦЬ ЯКАЯСЬ НЯВЫКАЗАНАЯ,КРЫЛАТАЯ РАДАСЦЬ, ЗАХАПЛЕННЕ І ЗАДАВАЛЬНЕННЕ, КАЛІ ЧЫТАЕШ ЛІТАРАТУРНЫ ТВОР, ЯКІ ВЫЗНАЧАЕЦЦА ДАСКАНАЛАСЦЮ, — ТАКІ, НІ ЗМЕСТУ, НІ СЭНСУ ЯКОГА НЕМАГЧЫМА ВЫЧАРПАЦЬ,ВЫТЛУМАЧЫЦЬ І КАНЧАТКОВА ЗРАЗУМЕЦЬ.**

Гэту „крылатую радасць і захапленне", несумненна, прынясе чытачам „КРУГАВАЯ ЧАРА". Але, мабыць, не ўсім, таму што вершы Яна Чыквіна — як кожнае высокае мастацтва — адрасуецца інтэлектуальна ды эстэтычна падрыхтаванаму ўспрымальніку. Ключом-сімвалам да ягонага зборніка ёсць загаловачная чара, вобраз якой мільгнуў калісь у ранейшым творы паэта:

Хочаш не хочаш
дадуць табе імя
за сталом пасадзяць
чарку сцябнуць
навучаць

Чара, якая была тады толькі адным з элементаў, ствараючых паэтычны свет Яна Чыквіна, у вышэйзгаданым зборніку сталася першапланавым сімвалам паэтычнага трактату аб чалавечай прыродзе ды кандыцыі чалавечага лёсу — бо такім з'яўляецца перш-наперш кніга вершаў „КРУГАВАЯ ЧАРА".

Філасофская накіраванасць зборніка зводзіцца да пераканання, што яднае нас, усіх жыхароў гэтай планеты, супольны лёс, якога зазнаем няспынна і нязменна. Вобраз — прызначанага чалавеку — лёсу спаўняе тут, як мы сказалі, чара. Паводле Святога пісання, у чару гэту налівалася віно, якое падавалі падчас ежы, — і чара ішла з рук у рукі субяседнікаў. Адсюль яе метафарычнае параўнанне з чалавечым лёсам. Шлях чалавечага жыцця на зямлі гэта кругавы шлях чары. Мы прыгубляем яе і перадаем адзін другому. Праз абрад спажывання з таго самага пачыння мы належым да аднаго круга Чалавечай Супольнасці. Разам са змесцівам чарай — сімвалам дабра і зла — перадаецца жыццё. Дык вось кругавая дарога чары гэта цёмная дарога чалавечага цярпення, але і светлай надзеі. Гэты вымоўны сімвал дазваляе нам глыбей усвядоміць, што няспынна ідзем мы паміж жыццём і смерцю, выпрабоўваючы штодня паміранне і зазнаючы штодня адраджэння. Такую свядомасць дуалістычнай візіі чалавечага лёсу ўбачыць можна ў мастацкай задуме Чыквінавых вершаў, у іх эмацыянальнай танацыі. Там, дзе пераважае радасны настрой, паяўляецца воблака суму. А ў творах з грунту песімістычных гараць іскрынкі надзеі. Кожны з нас можа атаясамлівацца з роздумамі літаратурнага героя гэтай лірыкі, з яго бачаннем свету ды спробамі пранікнення ў яго таямніцы і іх зразуменне.

**У ТВОРЧАСЦІ, ЯК У ЛЮСТЭРКУ, АДЛЮСТРОЎВАЕЦЦА (...) АБЛІЧЧА ЭПОХІ З ЯЕ ПАЛІТЫЧНАЙ, ГРАМАДСКАЙ, РЭЛІГІЙНАЙ ДЫ МАРАЛЬНАЙ АТРЫБУТЫКАЙ.**

Пацвярджаюцца і гэтыя словы паэта яго новай паэтычнай кнігай. „Абліччa эпохі" наклала свой адбітак на воблік літаратурнага суб'екта гэтых вершаў, на яго вопыт, на яго ўнутраныя перажыванні. Гэта тыповы чалавек канца неспакойнага стагоддзя і да таго прадстаўнік выразна акрэсленага пакалення, якое — у квеце сваіх біялагічных ды інтэлектуальных сіл — апарылася гісторыяй. Ён зараз самотны сярод тлуму, ідзе цёмнай дарогай пакуты.

**( Працяг на стар. 4 )**




### XXIX. АДНАВІЦЕЛЬ

Праўдзівым адраджальнікам і ўладкавальнікам духоўнага жыцця на ўсходнеславянскіх землях пасля татарскай навалы ў 1237-1241 гадах быў мітрапаліт Кірыла III. Гэта ён нястомна вандраваў з аднаго канца неабсяжных усходнеславянскіх прастораў у другі і, як падае летапісец, усюды „павучаючы, наказваючы і выпраўляючы". Там, дзе татары спалілі ці зруйнавалі царкву, архіпастыр заахвочваў грамадку, хоць часам і вельмі маленькую, уцалелых парафіянаў узброіцца малітваю і брацца за адбудову святыні; дзе ардынцы пазбавілі жыцця ці пагналі ў няволю свяшчэнніка, ён прызначаў новага пастыра, настаўляў яго да ахвярнага служэння Богу і людзям; дзе заўважаў няўладжанасці ў царкоўным жыцці, там наводзіў парадак. І праз яго ахвярную дзейнасць Гасподзь дапамог Праваслаўнай Царкве адрадзіцца з жудасных папялішчаў, устаць з каленяў і не трапіць у духоўную няволю.

Пранадобны Кірыла належаў да мудрэйшых і вучонейшых людзей тых часоў. Як ужо раней гаварылася, ён, мабыць, быў ігуменам аднаго з кіеўскіх манастыроў. Ратуючыся ад татараў, разам з князем Данілам Галіцкім падаўся на захад, у Венгрыю, а затым у Польшчу. Належаў ён да блізкіх людзей Даніле, служыў у яго канцлерам і адначасова ўзначальваў як ігумен ці архімандрыт праваслаўны манастыр ва Угруску ля ракі Буг (сёняшняе Хэлмскае ваяводства). Па ініцыятыве князя ў гадах 1242-1249 быў ён „нарэчаным" (назначаным князем, але не рукапаложаным патрыярхам) мітрапалітам кіеўскім, а ў 1249 г. патрыярх канстанцінопальскі Мануіл II паставіў Кірылу ў мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі. Ужо як правадзейны архіпастыр Усходняе Славяншчыны ён не толькі ўваскрашаў духоўнае жыццё, але таксама асцерагаў сваю паству — князёў, духавенства, простых людзей — ад спакусы здрадзіць сваёй веры. Несумненна, дзякуючы старанням пранадобнага Кірылы праз тры гады пасля каранацыі ў Дарагічыне Даніла Галіцкі ўжо ў 1257 годзе парваў суадносіны з Рымам.

Мітрапаліт Кірыла на пастаянна пасяліўся не ў Галіцка-Валынскім княстве і не ў разбураным татарамі Кіеве, а на поўначы рускіх зямель, ва Уладзіміры-Суздальскім. Чаму? Магчыма, таму, што ў Паўночна-Усходнюю Русь ніколі не наведваўся ніводзін з папярэдніх мітрапалітаў, і там было нямала няўладжанняў, выпраўленне якіх вымагала працяглай прысутнасці архіпастыра. Паўночна-Усходняя Русь знаходзілася далёка ад татарскай сталіцы і туды радзей заглядалі ардынцы. Была яшчэ адна прычына: узмоцніўся збройны націск крыжакоў-мечаносцаў, якія, прыкрываючыся пашырэннем каталіцкай веры, намагаліся захапіць Полацк, Ноўгарад Вялікі і суседнія землі Паўночна-Усходняй Русі. І тут неабходна была прысутнасць мітрапаліта, каб натхняць праваслаўных на абарону сваіх зямель і душаў ад захопнікаў. Усё гэта знаходзіць пацвярджэнне ў тым, што ў 1274 годзе мітрапаліт Кірыла склікаў ва Уладзімір-Суздальскі агульнаўсходнеславянскі духоўны сабор, які выдатна аздаравіў і ўмацаваў унутранае жыццё Царквы, а таксама згуртаваў сілы праваслаўных супраць наступу крыжакоў. І гэта вельмі дапамагло таму, што Паўночна-Усходняя Русь, Ноўгарад Вялікі, Полаччына абараніліся ад крыжацкага наступу. Не забываў мітрапаліт і пра сваю паству, што жыла на тэрыторыі, якая цяпер належыць да Беларусі і Польшчы. Праз князёў цвярскіх, блізка пародненых з князямі навагародскімі (навагрудскімі), полацкімі ды, несумненна, асабістымі візітамі ўмацоўваў тут Праваслаўе і таксама служыў натхненнем князю Лаўрэнцію-Войшалку да будовы і ўмацавання тут манаскага жыцця, прапаведавання праваслаўнага веравызнання таксама сярод неславянскага насельніцтва — літоўцаў, яцвягаў, прусаў.

Памёр мітрапаліт Кірыла ў 1281 годзе, пакінуў Праваслаўную Царкву ва Усходняй Славяншчыне, адроджанай і ўзмоцненай.

**МІКОЛА ГАЙДУК**






## Цёмная дарога цярпення і надзеі

( Працяг са стар. 3 )

Змагаецца з сабою, з фантазматамі сваёй псіхікі. Можна нават уявіць яго дакладны партрэт. Споўнілася яму сорак гадоў, значыць дажыў ён да біблейскага апагея чалавечага жыцця і таму „пазначаны ўжо цёмным ценем смерці". Але пакуль ідзе праз жыццё як пілігрым, ён асуджаны і абавязаны цярпець усе пакуты свету. Ён не корміць сябе аніякімі ілюзіямі. Адсюль самотнасць, разгубленасць, рэзыгнацыя, паныласьць, жаль, адчуванне немагчымасці, экзістэнцыяльна-філасофскі сумніў ды шматлікія пытанні.

**ПЫТАННЯЎ БЕЗ АДКАЗУ Ў СВЕЦЕ МАСТАЦТВА МНОСТВА. (...) М. ІНШ. ЧАЛАВЕК ЗАСТАЕЦЦА ДЛЯ САМОГА СЯБЕ ЎСЁ ФЕНАМЕНАЛЬНАЙ ЗАГАДКАЙ, БО, НЯСПЫННА МЯНЯЮЧЫСЯ, ЁН ЗАХОЎВАЕ, АДНАК, НЕЙКІ КАНСТАНС, НЕЙКУЮ СПРАЎДЖАЛЬНУЮ ТОЕСНАСЦЬ.**

Перапрацаваныя ў паэтычныя вобразы пытанні, якія тычацца асноўных філасофскіх катэгорый, праходзяць праз усе творы разгляданага тут зборніка вершаў, увасабляючыся найчасцей у форму супраціўства: абмежаваны час чалавека і неабмежаваны „час эпохі". І астаюцца яны, тыя пытанні, без адказу як з прычыны самой іх сутнасці, так і з недасканаласці мовы, няхваткі слоў, якія маглі б „nazywać rzeczy po imieniu". Дамінацыя пытанняў характэрна ўвогуле для Чыквінаўскага паэтычнага светаўспрымання.

Літаратурны герой яго вершаў змагаецца з неразгаданымі таямніцамі існавання, намагаецца ахапіць бясконцасць часу, спрабуе пранікнуць у тайніцу чалавечай прыроды, зразумець сваё месца і прызначэнне ў свеце. Пытае, кім ёсць чалавек, адкуль ён ідзе ды куды. Поўны трывогі, наш герой заблытаны таксама ў гістарычныя працэсы — як кожны з нас, і тым болей, калі возьмем пад увагу, што вырас ён на пагранiччы ўздзеяння многіх культур. Таму і справы нацыянальнай тоеснасці служаць яму для рэфлексіі, прыкладам чаго могуць быць вершы „Слупы бязвер'я", „Сляза арабіны", „Усё здаецца", „Сядзь. Закуры. Памаўчы". У „Слязе арабіны" паяўляецца арыгінальна перакампанаваны матыў ў спалучэнні з іншым сімвалам Беларусі, ды незвычайна прыгожае і трапнае параўнанне і асацыіраванне чырвоных, даспелых ягад арабіны, якія ападаюць, са слязьмі плачучай айчыны. „Слупы бязвер'я" гавораць аб звужаючымся гарызонце „малой радзімы", верш усведамляе, як невялічкая нам яшчэ асталася прастора, калі „ўжо толькі што з Дубіч да Орлі". Таму ў роздумах лірычнага суб'екта вершаў Яна Чыквіна няма сёння месца для гістарычных герояў. Яго цікавіць звычайны чалавек, які змагаецца са сваім лёсам, патэнцыяльна „кожны" з нас, — і годным увагі — замест музейнага мундзіра — стаецца вопратка шэрага людзіны.

Гэтыя выключна непаэтычныя тэмы палітыкі і патрыятызму, якія ў многіх паэтаў вылушчваюцца ў графаманскую, публіцыстычную рыторыку ці млосную дэкларацыю, у Яна Чыквіна набіраюць паэтычнага асэнсавання ды паяўляюцца ў кшталтах, поўных лірызму, вольных ад таннага павучання і школьных перасцярог.

**НЕ ДУМАЮ, КАБ ПАЭЗІЯ БЫЛА ДОБРЫМ МЕСЦАМ ДЛЯ ПРАПАВЕДАВАННЯ МАРАЛЬНЫХ ПРЫНЦЫПАЎ. ПАЭЗІЯ, ЯК АДНА З ПАСТАСЯЎ МАСТАЦТВА, МАЕ СВАЕ НЕАСПРЭЧНЫЯ ЗАДАЧЫ І МЭТЫ.**

Крыніцай маральных вартасцяў застаецца практыка грамадскага жыцця, а мастацтва адлюстроўвае іх ды артыстычна пераўтварае. Магчыма, таму ў „КРУГАВОЙ ЧАРЫ" маецца толькі адзін, наогул не характэрны для творчасці паэта, твор з выразнай маралізатарскай накіраванасцю — „Хлябец", які сам па сабе з'яўляецца тэкстам надта цікавым і арганічна ўпісаны ў гэты зборнік. Колькі разоў паўторанае адно і тое ж „хлябец будзе адданы" таксама ж мае нам асацыіравацца з колам немінучага лёсу і яго надзейнай, хоць і бясстраснай, справядлівасцю, якая ў канцы канцоў выраўнае ўсе нашы маральныя крыўды і страты.

**ПРЫГАЖОСЦЬ ЖАНЧЫНЫ, УЗМОЦНЕНАЯ ХАРАСТВОМ ЯЕ ДУШЫ, ВЫКЛІКАЕ Ў НАС ТЫСЯЧУ ЭМОЦЫЙ І ПЕРАЖЫВАННЯЎ, А НАЙВАЖНЕЙШЫМ І НАЙБОЛЬШ ШЛЯХЕТНЫМ ПАЧУЦЦЁМ СЯРОД ІХ ЁСЦЬ ПАЧУЦЦЁ ЗАКАХАНАСЦІ.**

У паэзіі Яна Чыквіна з жаночай постаццю звязаны аптымізм і радасць жыцця, якому яна надае значэнне і сэнс, дазваляе „вяртацца ў маладосць". Дзякуючы ёй адраджаецца жыццё, у свеце запаноўвае душэўны лад і парадак, і чалавечае існаванне ў ім набывае адпаведны фармат, таму што закаханасць, любоў з'яўляецца найбольш трывалым фундаментам жыцця як такога. Да жанчыны — трохі стылізаванай у „КРУГАВОЙ ЧАРЫ" — лірычны суб'ект Чыквінавых вершаў звяртаецца ў малітвеннай форме: „Акрылі мяне надзеяй". З ёю заўсёды злучаецца светласць, радасць, уцяшэнне — словам, усё, што найлепшае, што з'яўляецца крыніцай пазітыўных вартасцяў. У ёй паэт бачыць квінтэсенцыю жыцця.

Закаханасць — а пасрэдна, значыць, і жанчына — стаецца вельмі істотным рухавіком творчасці. Але варта адзначыць, што ў паэзіі Яна Чыквіна набірае яна — як, зрэшты, заўсёды ў добрых творах мастацтва — падвойнага вымярэння: пераважна з'яўляецца як катэгорыя канструктыўная; жанчына ўзвышае і акрыляе чалавека, дадае яму сілы, памагае стацца лепшым, эмацыянальна ўзбагачаным. Але яна можа таксама паралізаваць псіхіку, абмяжоўваць магчымасці, пасеяць недавер у сэнс жыцця. І хоць гэты другі аспект вымярэння высакароднага пачуцця не зусім для аўтара „КРУГАВОЙ ЧАРЫ" рэпрэзентатыўны, аднак жа знаходзім і яго адлюстраванне ў свядомасці лірычнага героя Чыквінавых вершаў.

**ДЛЯ „ЗАРАЖАНАГА" СТВАРАННЕМ ВЕРШАЎ ПАЭЗІЯ З'ЯЎЛЯЕЦЦА СПОСАБАМ ІСНАВАННЯ ЯГО СВЯДОМАСЦІ, ЯКАЯ ВА ЎСІМ І ЎСЮДЫ ПРЫКМЯЧАЕ ЯЕ ПРЫСУТНАСЦЬ, ЯЕ СЛЕД. (...) ПРАЗ МАСТАЦТВА СВЕТ ВЫЯЎЛЯЕ НАМ НАЙГЛЫБЕЙШЫЯ СВАЕ ТАЯМНІЦЫ. У ТЫМ ЗАКЛЮЧАЕЦЦА ВЕЛІЧ МАСТАЦТВА, ЯГОНАЯ МОЦ І СІЛА ЎЗДЗЕЯННЯ.**

Паэтычная кніга „КРУГАВАЯ ЧАРА", незвычайна прыгожая і вонкава і зместам, пацвярджае высокую пазіцыю, якую займела ў беларускай ды польскай літаратуры творчасць Яна Чыквіна. Як слушна заўважыў крытык з амерыканскага кантынента, „яна вяртае нашую паэзію ў лона эўрапейскай паэзіі".

„КРУГАВАЯ ЧАРА" гэта таксама чарговае пацвярджэнне таленту ды нязвыклай уражлівасці паэта. Сведчыць яна пра еднасць і згоднасць тэарэтычных выказванняў аўтара аб мастацтве з яго жывой паэтычнай практыкай, якая ўвасабляецца ў формы цудоўнай лірыкі — узнёслай і пагодлівай, трывожнай, чуллівай ды настальгічнай.

**ТЭРЭСА ЗАНЕЎСКАЯ**

* Усе цытаты ўзяты з майго інтэрв'ю з Янам Чыквіным, якое пад загалоўкам „Nie wstapię drugi raz do tej rzeki..." паявіцца ў навейшым нумары люблінскага часопіса „Akcent".

---

*Ян Чыквін, КРУГАВАЯ ЧАРА, Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Беласток 1992, стар. 50*

****************************************************************

## Дзеля долараў

Грашовая адзінка Злучаных Штатаў Амерыкі называецца доларам. Ейная назва выводзіцца ад нямецкага талера, які ў сваю чаргу абазначае не што іншае, як „грош з даліны" (па-нямецку „Таль" — даліна; у гэтым выпадку маецца на ўвазе Яахімава даліна ў Чэхіі, дзе капалі срэбра, з якога білі срэбныя манеты — талеры якраз). Срэбныя долары ў ЗША выступаюць не болей як нумізматычная рэдкасць — Федэральны банк рэзерваў выпускае іх час-часам з нагоды нейкіх значных падзеяў ці гадавінаў у амерыканскай гісторыі. Мабыць, так будзе і ў 1992 — Калумбавым годзе, калі Амерыка будзе адзначаць 500-ю гадавіну свайго адкрыцця Еўропай. Срэбныя манеты, зусім зразумела, зараз пасля выпуску набываюць вартасць, якая ў шмат разоў перавышае іхні намінал. Будзёншчына аднак — гэта цэнты з наміналамі 1, 5, 10, 25, і папяровыя банкноты з доларавымі наміналамі 1, 5, 10, 20, 50, 100. Надзвычай рэдка сустракаюцца 2-доларавы банкнот (з выявам 3-га прэзідэнта ЗША Томаса Джэферсана) ды манеты з наміналамі 50 цэнтаў і 1 долар (гэтыя апошнія выступаюць як разменныя грошы ў некаторых аўтаматах). Існуе сярод так званых звычайных амерыканцаў перакананне, што недзе ў банкавых разліках выступаюць банкноты са значна большымі наміналамі — 500, 1000 і 5000 долараў. Як ні дзіўна, ніхто з маіх амерыканскіх знаёмых іх не бачыў (хоць гадавыя заробкі некаторых дасягаюць 100 000), што больш, я сустрэўся з даволі шырокім дыяпазонам поглядаў і меркаванняў, што датычаць вызначэння, якія менавіта наміналы курсуюць у фінансава-банкавых колах. Зрабіць самую простую рэч — пазваніць у Федэральны банк рэзерваў і запытацца, якія банкноты яны тамака выпускаюць, я не наважыўся з увагі на Федэральнае бюро расследаванняў (чытачам сенсацыйнай літаратуры вядомае як ФБІ), якое магло б зацікавіцца маёй асобай як патэнцыяльным прадстаўніком фінансава-гаспадарчага шпіянажу (на карысць чытачоў „Нівы", дадам тут дзеля яснасці). Што ні сказаць, гэткая замкнутая цыркуляцыя вялікіх доларавых наміналаў зводзіць амаль на нуль рызыку нейкіх буйнамаштабных грашовых падробак і фальшаванняў; калі справа ў „драбнейшых" банкнотах, дык усе 50- і 100-доларавыя банкноты электронна правяраюцца не тое што ў банках, але і ў бальшыні амерыканскіх крамаў са значнейшымі фінансавымі абаротамі. Гэта ўстаноўлена федэральным правам, так што кожны буйнейшы капіталіст абавязаны набыць і абсталяваць у сваім бізнесе адмысловыя, федэральна аўтарызаваныя, электронныя машынкі. Амерыканскі долар з'яўляецца агульна прызнанай і стабільнай валютай у міжнародных разліках — каб бараніць гэтую ягоную пазіцыю, амерыканцы рупяцца не толькі пра магутнасць і стабільнасць свае эканоміі, але і пра строгую ахову сваіх банкавых білетаў.

Пазіцыя долара, якая ў Амерыцы і ў свеце явіцца нам у абалонцы своеасаблівага свецкага культу амаль, пабудавана на эканоміі ліберальнага капіталізму (з абсалютнай дамінацыяй прыватнага прадпрымальніцтва) ды на той характэрнай амерыканцам прыкмеце працалюбства, якую зноў жа можна прыраўнаць да нейкага рэлігійнага рытуалу. Нічога дзіўнага ў гэтых рэлігійных асацыяцыях не ўгледзім, калі ўсвядомім сабе, што

# ЖЫРОВІЧЫ

Са Слоніма да Жыровіч мінут дваццаць язды аўтобусам, бо сучасная вёска з комплексам старых каменных помнікаў знаходзіцца кіламетраў у дзесяці на поўдзень ад горада.

Даўняя легенда сцвярджае, што прыблізна ў 1470 годзе на лясной грушы пастушкам аб'явілася невялікая ікона Божай Маці. Здзіўленыя яе зззяннем, дзеці наведамілі аб усім мясцоваму памешчыку, які на тым месцы збудаваў невялічкую цэркаўку і змясціў у ёй абраз Божай Маці. Калі з часам цэркаўка згарэла, а цудоўны абраз з'явіўся на вялікім камені побач з суседняй крыніцай, новая царква была пабудавана над каменем там, дзе цяпер узвышаецца Богаяўленская царква-капліца, вымураваная ў 1672 годзе.

Усе згаданыя падзеі звязаны з імем каралеўскага маршалка Аляксандра Солтана. Ён і лічыцца заснавальнікам існуючай да нашых дзён праваслаўнай Жыровіцкай святыні, якая ў мінулым і зараз прыцягвае велізарныя масы веруючых. Жыровічы былі вядомыя не толькі на Беларусі, але і ў Літве, Польшчы, Украіне. На святочных службах тут бывалі многія знакамітыя вяльможы былой Рэчы Паспалітай. Так, напрыклад, у 1644 годзе тут на багамоллі быў кароль Уладзіслаў IV з жонкаю, у 1651 годзе — кароль Ян Казімір, у 1684 годзе — Ян III Сабескі з каралевічам Якубам, у 1744 годзе — Аўгуст III, у 1784 годзе — Станіслаў Аўгуст Панятоўскі і іншыя. Амаль усе з магнатаў і манархаў, якія наведвалі святыню, прыносілі ў дары для яе немалыя ахвяраванні або надзялялі прывілеямі, што рабіла яе багатай і славутай.

З 1555 года Жыровічы і маёнтак, у які ўваходзіла некалькі суседніх вёсак, з'яўляліся ўласнасцю Івана Солтана, які побач з існуючай царквою распачаў будаўніцтва вялікага мураванага храма. Аднак, будынак гэты ім не быў закончаны, нібы з-за пераходу гаспадара ў пратэстанцтва.

Пасля смерці Івана Солтана ўся маёмасць была раздзелена паміж чатырма яго сынамі: Давыдам, Яраславам, Іванам і Аляксандрам. Жыровіцкі маёнтак быў падзелены паміж Давыдам і Яраславам. У 1587 годзе Яраслаў прадаў сваю частку Жыровіч з „палавіцаю" манастыра царквы Жыровіцкае брату Івану за пяць тысяч коп грошай літоўскіх. Сюды ўвайшлі і суседнія вёскі Літва, Залессе, Заверша, Русакова, Сценявічы. У 1603 годзе новы гаспадар здаў Жыровіцкі маёнтак на чатыры гады ў арэнду яўрэям.

У 1606 годзе мсціслаўскі кашталян, землеўладальнік Іван Мялешка купіў Жыровіцкі маёнтак з усёй маёмасцю і насельніцтвам, а таксама манастыр з царквою, даходам ад яе і фальваркам...

Немалы ўдзел у манастырскім будаўніцтве і папулярызацыі яго славы прымаў слонімскі староста (з 1586 да 1633 гадоў) канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега. Толькі адным уласнаручным запісам у напрастольным саборным евангеліі (так званым Жыровіцкім або Сапежанскім), зробленым 22 жніўня 1616 года, ён ахвяроўваў манастыру вялікую частку Шылавіцкага маёнтка па левы бок ракі Шчары, карчму з прылягаючымі землямі, багатую царкоўную рызу, поручы, епітрахілі, архірэйскую мітру і посах, срэбную чашу і дыскас. Падобныя ахвяраванні былі неадзінкавыя. Апякунства Льва Сапегі спрыяла росквіту асветніцкіх і культурных традыцый святыні. Пры манастыры існавала вялікая па тым часе бібліятэка, а таксама архіў, вёўся летапіс манастыра, перапісваліся рэдкія кнігі, працавала манастырская школа.

Папа Інакенцій X (у пачатку XVII ст. манастыр быў загнаны ва унію) у 1647 годзе ў Рыме даў індульгенцыю, у якой гаварылася аб ачышчэнні душаў памёршых ад грахоў і пазбаўленні ад пакутаў памянутых у Жыровіцкім манастыры ў адведзеныя дні. Дзесьці з гэтага часу каля сцен манастыра і ў яго падзямеллях пачалі хаваць не без ахвяраванняў, самых вяльможных і багатых паноў Вялікага княства Літоўскага.

Ужо ў 1644 годзе, пасля візіту ў Жыровічы караля Уладзіслава IV, мястэчку было дадзена права называцца горадам. А пасля візіту караля Яна Казіміра, у 1652 годзе, яму было дадзена Магдэбургскае права (самакіраванне).

Аднак, у самы росквіт славы святыня зазнала страшэнныя разбурэнні. У 1655 годзе казацкія атрады Багдана Хмяльніцкага, якія дзейнічалі супольна з рускай арміяй супраць Рэчы Паспалітай, захапіўшы Слонімшчыну, ушчэнт знішчылі манастыр і перабілі яго служыцеляў. Моцна пацярпела і само мястэчка, асабліва багацейшыя двары. Немалыя страты былі прычынены наогул культурнай спадчыне краю. Вядучы „барацьбу за веру" і знішчаючы ўсё прапольскае і пракаталіцкае, часамі без разбору нішчыліся помнікі архітэктуры, мастацтва, пісьма і гісторыі. У агні помсты гарэлі каштоўнасці народа.

Трэба адзначыць, што навакольнае сялянства, якое востра адчувала на сабе нікчэмнасць існавання і цяжар прымусу, вітала казацкую вольнасць. У гэтых атрадах было нямала і выхадцаў з тутэйшых мясцін, якія, ратуючыся ад расправы ўладных паноў і судоў, беглі на поўдзень, папаўняючы казацтва.

Каб падняць з руін былы манастыр, базыльянам спатрэбілася нямала сродкаў і часу, але раны залечваліся. Акрамя новых ахвяраванняў і дапамогі ордэна, сейм Рэчы Паспалітай у 1661 годзе зняў з Жыровіч назаўсёды вайсковыя абавязкі, а падаткі зняў на чатыры гады. Паралельна з аднаўленнем старых манастырскіх камяніц вялося і новае будаўніцтва. У 1672 годзе, напрыклад, была ўзведзена невялікая мураваная Богаяўленская царква-капліца і манастыр ажывіў сваю дзейнічасць.

І.Чыстовіч паведамляе, што ўжо недзе ў другой палове XVII стагоддзя ў Жыровічах існавала манастырская друкарня. З 1701 года пры манастыры пачала працаваць так званая філасофская школа на 300 вучняў. Паступова аднаўлялася і былая слава „аб'яўленай жыровіцкай іконы".

Пасля трэцяга раздзелу Рэчы Паспалітай (1795 год) Слонімшчына адыйшла да Расейскай імперыі. Жыровіцкі базыльянскі манастыр рантоўна страціў былую велічнасць і значэнне. У 1810 годзе сюды было пераведзена ўпраўленне брэсцкага епіскапата: Успенскі сабор стаў кафедральным. З 1821 года распачата рэканструкцыя сабора з адначасовай прыбудовай так званай цёплай, заглыбленай у зямлю царквы св. Васілія (цяпер Мікольская царква-цапліца), але работы па шэрагу прычын зацягнуліся на дзесяцігоддзі.

У 1828 годзе ў Жыровічах адкрылася духоўная семінарыя, якая з часам падрыхтавала глебу да вяртання праваслаўя на значнай тэрыторыі. У сувязі з гэтым у тым жа 1828 годзе



*Жыровічы. Успенскі сабор.*

**( Працяг на стар. 6 )**

************************************************************************

„амерыканскі дух" сваімі каранямі сягае таго строгага і патрабавальнага да жыццёвага існавання чалавека пурытанска-пратэстанцкага светагляду першых англа-саксонскіх пасяленцаў ды тых усіх эмігрантаў з кантынентальнай Еўропы, што пакінулі яе ў перыяд Контррэфармацыі — перыяд жорсткага праследу Каталіцкім касцёлам паслядоўнікаў рэлігійнай навукі Лютэра, Кальвіна і Цвінглі. Пратэстанцкая Біблія ў адной руцэ, стрэльба ў другой, а перад вачыма неспазнаныя і неабсяжныя прасторы прэрыі — так сінтэтычна можна абрысаваць галоўныя вызначнікі фармавання „амерыканскага духу" ў першы, піянерскі перыяд паходаў і пабудовы новай заморскай цывілізацыі. Тое перакананне, што „не святыя гаршкі лепяць", што можна пабудаваць свой дабрабыт працай уласных рук — яно і па сённяшні дзень вызначае самае істотнае ў жыццёва аптымістычным амерыканскім светаглядзе. І з'яўляецца галоўным духоўным рухавіком амерыканскай заможнасці, так бы мовіць.

Цікавая рэч (прынамсі для кагосьці, хто выбраўся на некалькі месяцаў з чаду суперкаталіцкай Польшчы) — рэлігія ў грамадска-палітычным жыцці ЗША ледзь прысутная, дакладней кажучы, не з'яўляецца абавязковым складнікам абмеркавання і вырашэння тых палітычных пытанняў, якія ў дадзены момант хвалююць народ. І гэта — пры наяўнасці амаль усіх рэлігійных веравызнанняў і сектаў, што існуюць на свеце. Рэлігійнасць амерыканцаў — яна, хутчэй за ўсё глыбока ўнутраны фактар, чымсьці „святкавальна-спектакулярны". Каляды ў Амерыцы — вялікае




нацыянальнае свята, але ў вонкавага назіральніка ўражанне такое, што адзначаецца перад усім важная падзея цывілізацыйна-культурнага значэння для ўсяго хрысціянскага свету, чымсьці ейны рэлігійны сэнс — нараджэнне Збавіцеля. У кожным выпадку, усе тры вялікія манатэістычныя рэлігіі — хрысціянства, мусульманства і юдаізм, як і ўсе палітэістычныя, суіснуюць у амерыканскім грамадстве даволі мірна, без усплёскаў рэлігійнага фанатызму ці ваяўнічага місіянерства. „E pluribus unum" (лац.: адзінства ў разнароднасці) і „In God we trust" (анг.: на Бога спадзяемся) — гэтыя дэвізы амерыканцы пішуць на сваіх грашах. І калі амерыканскае адзінства дасягаецца перш за ўсё цывілізацыяй долара (трэба разумець: амерыканскай канцэпцыяй эканамічнага дабрабыту і паўсюднай акцэптацыяй маральных вартасцяў ліберальна-дэмакратычнай і заможнай дзяржавы), дык другі дэвіз пазбаўлены таго містычнага фаталізму, характэрнага каталіцызму ці праваслаўю. Чалавек у Амерыцы спадзяецца перад усім на самога сябе, на ўласную галаву і рукі, якім дадзены „дэмакратычны прастор" і агульнае прызнанне чалавечай працы як прынцыповай маральнай вартасці, так і асноўнага шляху да матэрыяльнай заможнасці.

Хтосьці можа заўважыць, што такія ж самыя прынцыпы былі закладзены і ў ідэалогіі камуністычнага грамадства, так што я тут апіякай Амерыкі не адкрываю. Былі — але зараз жа і спылі. Камунізм не ўчыніў людзей заможнымі, што горай, цалкавіта разбурыў як маральнае, так і эканамічнае значэнне працы — знішчыў этос працы. Уявім сабе палітыка - рэфарматара ўсходнееўрапейскай посткамуністычнай спадчыны, які цэнтральным пунктам свае ідэалогіі ставіць працу як галоўны шлях пераадолення эканамічнага і маральнага крызісу. Ці ж мае нейкі шанц на выйгрыш у выбарах? І гаварыць шкада. Выйгрываць будуць тыя, што вешаюць людзям лухту на вушы пра капіталістычныя механізмы і ўсё такое, што нібыта адно праз рэструктурызацыю эканамічных адносін палепшыць долю народу. Натуральна, сітуацыя такая характарызуе не столькі жулікаватасць палітыкаў, колькі глыбіню маральнай і сацыяльнай дэградацыі посткамуністычнага грамадства, у якім знікла не столькі вера ў Бога, колькі вера ў працу...

Калі працаваць — дык у Амерыцы. А ў сябе — напляваць! Дык вось, пра працу не ў сябе, а ў Амерыцы, запрашаю прыхільных чытачоў пачытаць у наступным кавалку маіх занатовак з Нью-Йорка. Называю іх агульна „Дзеля долараў", хоць маю поўную свядомасць, што ганарар за іх атрымаю ў залатоўках. Ды што там — напляваць!

**ЯН МАКСІМЮК**

# ЖЫРОВІЧЫ

( Працяг са стар. 5 )

уніяцкі манастыр з Жыровіч быў пераведзены ў Быцень.

14 ліпеня 1839 года епіскап Іосіф Сямашка і група уніяцкага духавенства ў Жыровічах падпісалі акт аб вяртанні уніяцкай царквы ў праваслаўе.

У 1845 годзе епіскапская кафедра і духоўная семінарыя з Жыровіч пераведзены былі ў Вільню, а храмы пераходзілі на становішча звычайных прыхадскіх цэркваў.

У першую сусветную вайну, перад прыходам (1915 год) немцаў, амаль усё, што заставалася яшчэ ў манастыры і цэрквах, было вывезена ў Маскву, у падзямеллі сабора Васілія Блажэннага, а рэшткі былога архіва аж у Новасібірск, дзе след іх знік.

У час нямецкай акупацыі, якая пачалася 3 верасня 1915 года і працягвалася сорак месяцаў, у апусцелым манастыры пэўны час размяшчаліся нямецкія вайсковыя казармы і канюшні, сад пілаваўся на дровы. Наогул гэтая вайна пакінула разбуральны след на даным унікальным кутку Слонімскай зямлі, але камяніцы ўцалелі.

Сёння Жыровіцкі манастырскі комплекс, які захаваўся да нашых дзён, цікавы і як архітэктурны помнік. Ён складаецца з Успенскага сабора (помнік архітэктуры XVII — першай паловы XIX стагоддзя), Богаяўленскай царквы (помнік архітэктуры другой палавіны XVIII стагоддзя, пабудаваны ў стылі барока ў 1769 годзе), Георгіеўскай царквы (помнік архітэктуры з дрэва канца XVIII стагоддзя) і Крыжаўздзвіжанскай царквы (помнік архітэктуры другой паловы XVIII стагоддзя).

Да ўсяго сказанага вышэй пра Жыровічы хачу дабавіць, што ў 1989 годзе пры манастыры адкрылася Мінская духоўная семінарыя. У мінулым годзе яна пераведзена на пяцігадовы тэрмін навучання і ёй нададзены статус вышэйшай навучальнай установы. Гэта, дарэчы, першы выпадак у Рускай праваслаўнай Царкве.

Некалькі слоў пра семінарыю я папрасіў сказаць яе рэктара, епіскапа Навагрудскага Канстанціна. Вось што ён сказаў:

— У семінарыі на трох курсах зараз навучаецца 124 чалавекі. Ёсць многа семінарыстаў з Гродзенскай вобласці, а наогул працэнтаў 70 нашых хлопцаў родам з Беларусі. А на першым курсе яшчэ больш. Кожны курс раздзелены на два класы: беларускамоўны і рускамоўны. Беларускамоўны клас усе прадметы вывучае толькі на беларускай мове і нават рускамоўны клас вывучае беларускую літаратуру.

„Ходзяць чуткі, што нібыта ў Жыровічах, нібыта ў Менску адкрываецца Духоўная акадэмія. Ці так гэта?" — задаю яшчэ адно пытанне епіскапу Канстанціну.

— Рашэнне Сінода Беларускай праваслаўнай Царквы — адкрыць у Менску Духоўную акадэмію. Расія мае дзве акадэміі — у Маскве і Санкт-Пецярбургу, а Беларусь не мае сваёй. Таму мы лічым, што ў беларускага народа дастаткова інтэлектуальнага і духоўнага патэнцыялу, каб мець у Менску, ці ў нас у Жыровічах добрую Духоўную акадэмію. І каб у ёй выкладалі лепшыя прафесары Беларусі, і каб гэтая акадэмія стала сапраўды нацыянальнай, праваслаўнай, і рыхтавала свяшчэннікаў, якія б неслі праваслаўе на роднай для беларусаў мове.

СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

# Беларуская песня'92

## ...А ПЕСНЯ ЯШЧЭ ЖЫВЕ!

У суботу раніцай, 15 лютага гэтага года слухачы беларускіх перадач Беластоцкага радыёвяшчання, якія ўключылі радыё ўжо ў часе, калі пачалася перадача, са здзіўленнем сцвердзілі, што беластоцкі раённы агляд „Беларускай песні '92" адбудзецца заўтра (?), а гайнаўскі — паслязаўтра (у панядзелак?). Праўда, хто ўключыў радыё загадзя, дык пачуў, што гэта паўтараецца перадача з пятніцы, 14 лютага, і быў у курсе справы. Але, хлопцы мілыя з радыё! Няўжо нельга было абыйсціся без гэтага „заўтра" і „паслязаўтра", калі вы ведалі, што ваша перадача будзе паўторана?!

Людзі ўсё ж прыйшлі. Але гудзелі бы тыя пчолы, што радыё кепска паінфармавала. Пэўна, паспелі прачытаць новы нумар „Нівы", якая дала дакладную інфармацыю наконт агляду.

Сабраліся 15 лютага ў будынку ГП БГКТ і слухачы, і выканаўцы. Сярод 14 пазіцый у праграме беластоцкага раённага агляду найбольш было выканаўцаў з Беластока. Але ж прыехаў і калектыў з Гарадка, і жанчыны з Агароднічак, і мужчынскі калектыў з Рыбалаў. Не першы раз спяваюць яны ў аглядах „Беларускай песні" і слухачы зжыліся з імі як з неадлучным элементам беларускага пейзажу Беласточчыны.



*Люба Гаўрылюк перамагла сярод салістаў.*



*Квартэт з Беластока, які перамог у катэгорыі сучаснай песні.*

Журы (Неаніла Панько, Багуміла Васілюк і аўтарка гэтага тэксту як старшыня) не мела клопатаў з прызнаннем месц у катэгорыі сучаснай песні. Бесканкурэнтным аказаўся тут маладзёжны квартэт: Аня Богус, Марыя Вярбіцкая, Павел Лаўрэшук, Міхал Лашэвіч. Свежая інтэрпрэтацыя, вышкаленыя галасы, даскапалая падрыхтоўка. Занялі яны першае месца за выкананыя „Зорку Венеру" і „Калыханку".

Другое месца ў гэтай катэгорыі заняў нястомны ветэран беларускай

## У ГАЙНАЎЦЫ НА АГЛЯДЗЕ

16 лютага ў Гайнаўскім доме культуры прайшоў раённы агляд музычнай творчасці „Беларуская песня '92". Яшчэ задоўга да пачатку імпрэзы ў фае дома культуры тлуміліся людзі, каб дастаць месцы — хто прыйшоў у апошнюю хвіліну, мусіў стаяць. Людзі валілі на агляд нягледзячы на тое, што за ўступ на яго трэба было плаціць. Яшчэ некалькі гадоў таму, калі ўступ на „Беларускую песню" быў бясплатны, імпрэза прыцягвала ўсяго жменьку гледачоў. Што ж, у беларускім грамадстве адбыўся заўважальны зрух — штораз больш людзей прызнаецца да беларускасці, пашасці, тутэйшасці, ці як там хто яшчэ вызначае сваю прыналежнасць.

Гайнаўскі агляд „Беларуская песня '92" пачаўся моцным, так бы мовіць нацдэмаўскім акцэнтам. Запачаткаваў імпрэзу дырэктар дома культуры Мікалай Бушко.– У час канцэртаў, — сказаў ён, — вы пачуеце беларускую мову ва ўсіх яе адценнях — ад чыстай літаратурнай да цвёрдых дыялектаў, але нягледзячы на тое, ці хтосьці „гаворыць", ці „говорыт", усе мы карыстаемся адной і той жа моваю. Арганізатары падзялілі канцэрты на дзве часткі — фальклорную і сучасную. Былі гэта заадно і катэгорыі, у якіх журы ацэньвала выканаўцаў. У фальклорнай частцы агляду выступілі музычныя гурты са Старога Ляўкова, Дашоў, Чыжоў, Семяноўкі, Курашава, Арэшкава, Дабрывады, Чаромхі, Волькі Цераховскай, Трывежы і Гайнаўкі. Агулам дваццаць выканаўцаў, якія праспявалі па дзве песні. Ацэнку выканаўцаў фальклорнай часткі агляду зрабіла журы, з сакратаром Беларускага грамадска-культурнага таварыства Валянцінай Ласкевіч у сваім складзе. Валянціна Ласкевіч — дзейны ўдзельнік беластоцкага музычнага жыцця, дык я тут паўстрымаюся ад сваіх заўваг. Скажу толькі, што фальклорныя гурты адрозніваліся ступенню прафесійнасці. Несумненна, самае высокае мастацтва паказаў хор Гайнаўскага дома культуры, які ў час канцэртаў выступіў у некалькіх сваіх варыянтах. Фальклорныя гурты, а ў асаблівасці тыя, якія дзейнічаюць у вёсцы, наогул пазбаўлены кіраўніка з высокай прафесійнай падрыхтоўкай — выняткам з'яўляецца хор Гайнаўскага дома культуры, якім кіруе Анна Стрыха з Гародні.

У сучаснай частцы агляду „Беларуская песня '92" выступіла пяць вакальна-інструментальных гуртаў. Запачаткаваў канцэрты рок-гурт з Гайнаўскага беларускага ліцэя.




*Выступае калектыў з Чыжоў.*



Спявае мужчынскі калектыў з Рыбалаў .



Пяціасабовы калектыў з Гарадка падзяліў I месца з рыбалаўцамі і беластаччанами.

песні Юрый Налівайка, а трэцяе — дуэт ліцэістак: Аня Богус і Марыя Вярбіцкая.

У катэгорыі аўтэнтычнай фальклорнай песні першае месца заваявала Галіна Карбоўская з Беластока, якая выканала дзве народныя песні „Цячэ рэчка з-пад мястэчка" і „Ой хмурыцца, дождж будзе". На другім месцы апынуўся дуэт з Агароднічак — Ніна Аўгустыновіч і Лідзія Матэйчук, якія праспявалі дзве песні, напісаныя імі самімі. Песні, на жаль, былі выкананы на руска-беларуска-украінскай „трасянцы", хаця добрыя былі з музычнага боку. Жанчыны абяцалі, аднак, што да цэнтральнага агляду дашліфуюць і мову.

Найбольш было кандыдатаў да ўзнагарод у катэгорыі фальклорнай апрацаванай песні. Тут выдзеліліся дзве групы. У групе салістаў перамагла шматразовая лаўрэатка конкурсаў „Беларуская песня" Люба Гаўрылюк (I месца), а другое месца было прызнана Уладзіміру Іванюку (абое з Беластока).

Вялікія цяжкасці мела журы пры вызначэнні месцаў у другой групе гэтай катэгорыі — у групе хораў. Каму даць першае месца? Ці 5-асабоваму калектыву з Гарадка, які дасканала заспяваў пры акампанеменце Сцяпана Копы дзве народныя песні „Чаравічкі" і „Ой зелена, зелена"? Ці хору Беластоцкага аддзела БГКТ, які спяваў а капэла пад кіраўніцтвам Любы Гаўрылюк „Ой калі ж той вечар" і „Чым я не хазяйка?" ды спяваў з вялікай культурай? А мо прызнаць першае месца калектыву з Рыбалаў, славутым спяваючым мужчынам, што выконваюць свае ўласныя песні — піша ж іх Мікола Ігнацюк, удзельнік хору, — а сёння заспявалі „Белую вішаньку" і „Баба, дзед і самаход"?!

І журы вырашыла: усім тром калектывам прызнаць першае месца, бо хаця кожны з іх меў іншыя, магчыма, плюсы, але ў кожнага з іх гэтыя плюсы былі важкія. Вакальнай групе з Беластоцкага гарадскога аддзела прызнана другое месца.

Раённы агляд уразнастайніла дзявочая балетная група, што працуе пры ГП БГКТ пад кіраўніцтвам мінчанкі Ларысы Дуброўскай, якая, зрэшты, вяла беластоцкі раённы агляд 15 лютага.

Калі, зачытваючы рашэнне журы, я дазволіла сабе на некалькі ўваг наконт асобных выступленняў, а пасля сказала аб тым, што маю намер напісаць аб гэтым аглядзе і ўжо ведаю, што дам артыкулу загаловак „... а песня яшчэ жыве!", у зале грымнула авацыя.

Вядома, што не была гэта авацыя майму пісанню. Людзі апладзіравалі таму, што ва ўмовах, калі культура занікае наогул (а што ўжо гаварыць пра вёску!), калі зачыняюцца тэатры, кіно, клубы і кіёскі „Руху", калі людзі перастаюць купляць не толькі кнігі, але і газеты і застаецца ім ужо толькі тэлевізар — апошняя ластаўка культуры, — у беларусаў ёсць яшчэ песня. Няма ўжо амаль нічога, а песня яшчэ жыве!

І таму лічу, што былі гэта „бравы" для іх самых, бо менавіта дзякуючы гэтым людзям наша песня трымаецца ў народзе. Не ўмеюць яны жыць без песні. Без песні ім нельга.

**АДА ЧАЧУГА**
**Фота**
**СЯРГЕЯ ГРЫНЯВІЦКАГА**




Вакальна-інструментальны гурт з Нарвы.



Перад выступам.



Не ўсім гледачам хапіла месцаў.

Хлопцы „адшпарылі" дзве кампазіцыі ў стылі гард, агульна кажучы. У час іхняга канцэрту голас узяла маладая частка публікі — дзяўчаты з беларускага ліцэя. Іхняя рокавая істэрыка не прадвяшчала нічога добрага хлопцам. Іншыя гурты паказалі музыку, так сказаць, з вясковай патанцоўкі, якой да ўзроўню сучаснай маладзёжнай крыху яшчэ бракуе. На гэтым фоне,трэба адзначыць, вылучаўся вакальна-інструментальны гурт з Нарвы, з дзвюма дзяўчынамі як вакалісткамі.

Раённы агляд „Беларуская песня '92" закончыў выступ хору „Журавінка" з Беларусі, які прадставіў багатую і добра падрыхтаваную праграму. Выступ гэты адбываўся, аднак, ужо па-за конкурсам — у гэты час журы ацэньвала выканаўцаў. Вынікаў аглядаў давялося даўгавата чакаць. На цэнтральны агляд „Беларуская песня '92" у Беластоку паедуць: калектыў з Дабрывады, дуэт і квартэт з Чыжоў, Ірэна Лукша з Семяноўкі, квартэт з Дашоў, калектывы з Арэшкава, Старога Ляўкова і Курашава, рок-гурт з Крыўца, хор Гайнаўскага дома культуры, квартэт з гайнаўскага беларускага ліцэя і мужчынскі калектыў з Нарвы.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

**Фота аўтара**

## ПАМІЖ МОЛАТАМ І КАВАДЛАМ

( Працяг са стар. 1 )

некалькі месяцаў таму назад усе меншасныя таварыствы ў Польшчы.

Пытаю я, што рабіць? Хаця ведаю, што ніхто мне не дасць добрай рады.

Уся гэта сітуацыя для мяне незразумелая, асабліва сёння, калі Польшча слушна дамагаецца ад беларускага ўрада правоў і дапамогі для польскай меншасці на Беларусі. І таму звяртаюся да найвышэйшых дзяржаўных прадстаўнікоў Рэчыпаспалітай Польшчы і Рэспублікі Беларусь: спаткайцеся і выпраўце справу, не дайце згінуць культуры і мове нацыянальных меншасцей, калі не хочаце акрыцца ганьбай у вачах цывілізаваных народаў!

**АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ**

## ЧАМУ ЦАРКВЕ НЕЛЬГА КАРЫСТАЦЦА РОЎНЫМІ ПРАВАМІ?

( Працяг са стар. 1 )

хачу прыпамінаць, што было вернута Каталіцкаму касцёлу, але думаю, што дачакаем той хвіліны, калі прэзідэнт Беластока перадасць тыя ўчасткі, а Беластоцкі ваявода — тыя будынкі, якія дапамінаецца Царква.

Мы павінны рабіць усё, каб фармаваць уласцівыя паставы сужыцця розных веравызнанняў і нацый. У супольнай дэкларацыі папы Яна Паўла II і патрыярха Дзмітрыя ад 7 снежня 1987 г. запісана, каб супрацьстаяцца ўсяму, што можа спрыяць нязгодзе, нагардзе і ніпавісці паміж касцёламі. Нельга рабіць тое, што магло б выклікаць непатрэбныя эмоцыі, тым больш, што неўзабаве адбудзецца месны Праваслаўны сабор.

Клопат за будучыню, за экуменію патрабуе аднолькава трактаваць усе канфесіі і прытрымоўвацца права і міжнародных трактатаў аб правах чалавека, падпісаных Польшчай.

**ЯНКА ЗЕНЮК**

## Майстар на ўсе рукі

# МІХАСЬ БАКАНАЧ

Пра яго пісаў я дваццаць год таму назад. Міхась Баканач — ураджэнец Новага Ляўкова ў Нараўчанскай гміне. Яшчэ ў пачатковай школе праяўляў ён здольнасці ў напрамку жывапісу. Рысаваў маляўнічыя пейзажы бліжэйшай ваколіцы і партрэты. Пасля заканчэння прафесіянальнай школы, працаваў на мясцовай керамічнай фабрыцы. Увесь вольны час пасля працы прысвячаў разьбе па дрэве, а таксама сабе толькі вядомым канструктарскім планам і іх ажыццяўленню. Найперш пачаў рэзбіць фігуры белавежскіх зуброў, а затым аднасяльчан. Творчасць яго была цесна звязана з вёскай, якая з'яўлялася яго галоўным натхненнем у творчых пошуках. Ёсць у яго фігурках шмат меланхоліі і задуменнасці. Выкарыстоўвае для гэтага прыродную чароўнасць драўніны — сістэму слаёў, жылак і расколін, якія з'яўляюцца дадатковымі дэкаратыўнымі элементамі. Не пераймаў ён нічыіх узораў, нічыіх думак, не паддаваўся нічыім уплывам. Калі верыць словам Міхася, дык для яго разьба ў дрэве была найлепшым адпачынкам.

У больш сталыя гады свайго жыцця Міхась Баканач пабудаваў мураваны дом з белай цэглы. Адзін з пакойчыкаў упрыгожваюць яго карціны.

На працягу некалькіх гадоў выконваў драўляныя кухонныя прылады для Беластоцкага аб'яднання саматужнікаў і народных вытворцаў. Цэлымі днямі працаваў у бацькавай сталярні. Апрача тзв. „цэпэлеўскіх" вырабаў выконваў адмысловыя жырандолі і панелі.

Міхась ніколі не меў дачынення да вялікага мастацтва. Калі пачаў самастойна весці бацькаву гаспадарку, дык часу не хапала ні на разьбу, ні на тое, каб развіваць свой талент.

Але калі ляўкоўскі канструктар-самавук нешта задумае, дык усё будзе яму пад сілу. Як вядома, вёска Ляўкова знаходзіцца непадалёку ад рэк Нараўка і Нарва ды вялікага Семяноўскага вадасховішча. Міхась задумаў пабудаваць дзве байдаркі. Задумаў і змайстраваў. Знайшоў найбольш адпаведнае для гэтага дрэва, палатно, алейную фарбу. Байдаркі атрымаліся на дзіва лёгкія, зручныя і больш бяспечныя на вадзе, чым тыя, якія бачым у магазінах са спартыўным абсталяваннем.

У 1990 і 1991 гадах Міхась будаваў сабе яхту. Зараз яе заканчвае. У мінулым годзе вазіў яе на Семяноўскае мора. Можа на ёй плысці 7 чалавек дарослых ды 2—3 дзяцей. Малады майстар зарэгістраваў яе як плаваючую адзінку для 7 асоб на палубе. Да яхты замантаваны рухавік ад аўтамашыны. Вось што значыць мець залатыя рукі і крыху фантазіі! Цікава дзе, ды ці ўвогуле ёсць межы так званым залатым рукам і замыслам фантазёраў, да якіх, між іншым, належыць і ляўкоўскі сціплы канструктар-самавук?

Да партрэта майго аднавяскоўца хацелася б дадаць і тое, што ён любіць ездзіць на рыбалку. А пры сустрэчы 9 лютага гэтага года на верхнім паверсе ягонага мураванага асабняка Міхась неяк нечакана для мяне выявіў мне сваю задуму.

— Вось хачу купіць фотаапарат, дык парай, які быў бы найлепшы для мяне — самавука? Мой адказ быў даўгаваты. Якраз у гэтай галіне я здабыў такі-сякі вопыт, што не было тайнай для Міхася. Не ведаю, як доўга слухаў бы ён мае парады. Ужо аб чым-чым, але накопт фатаграфавання мне заўсёды ахвота пагаварыць. Спыніла жонка Міхася, мясцовая настаўніца: — Міхаська, колькі ж буду я цябе чакаць! Пара ісці на хрэсьбіны да суседзяў! Ці ж ты забыў?

Шкада было мне расставацца з маім субяседнікам. Каб вы ведалі, як ён любіць слухаць! Я веру, што з Міхася будзе добры фатограф. Бо калі ён нешта задумае...

**ЯСЕНЬ**

# НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

### IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ

**8. Іншамоўныя словы ў лексічнай сістэме беларускай мовы . ( працяг)**

**Італізмы.1.**

Большасць запазычанняў з італьянскай мовы прыйшло ў беларускую мову ў XIX і XX ст.ст., хаця некаторыя італізмы пачалі пранікаць яшчэ ў XVI ст. „Звязана гэта было з распаўсюджаннем ідэй Рэфармацыі і павышэннем цікавасці да культурнай спадчыны еўрапейскага Адраджэння, з тым, што многія дзяржаўныя, палітычныя, культурныя дзеячы атрымлівалі асвету на Захадзе, многія высокаадукаваныя людзі з Захаду займаліся культурнай і навуковай справай па Беларусі. Напрыклад, у помніках беларускай пісьменнасці XV—XVI ст.ст. сустракаюцца такія італізмы, як *галера, почта, салата, фарцеа (крэпасць), шпада (шпага)*"2.

Тэматычна гэтыя словы адносяцца да:

— музычнай, песеннай і тэатральнай тэрміналогіі: *адажыо, альт, араторыя, арыя, бас, віяланчэль, віртуоз, дуэт, інтэрмецо, капела, квартэт, кларнет, кампазітар, маэстра, опера, саната*;

—фінансава-эканамічнай тэрміналогіі: *банк, брута, нета, валюта, сальда*;

—архітэктурна-будаўнічай тэрміналогіі: *арка, барока, мазаіка, фантан, цокаль*;

— бытавой лексікі: *вермішэль, макароны, панталоны*;

— прыродазнаўчай лексікі: *лаванда, лагуна, пінія*;

— ваеннай лексікі: *гвардыя, казарма, ракета.*

**Запазычанні з іспанскай мовы.** 3.

Іспанізмаў у беларускай мове нямнога. Запазычаны яны праз пасрэдніцтва польскай і рускай моў у XIX і XX ст.ст. Сярод іх выступаюць словы, звязаныя з:

— мастацтвазнаўствам: *арлекін, гітара, румба, танга*;

— раслінным і жывёльным светам: *ананас, банан, калібры, лама, маскіт, пума*;

— грамадска-палітычнай і ваеннай лексікай: *армада, матадор, пікадор, сеньёр, сілас.*

-------------


1. Літаратура: В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексіка. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 63; Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія, Мінск, 1961, с. 170; Л.Р. Багамаз, Лексіка італьянскага паходжання ў беларускай мове, у: Беларуская мова, вып. 5, Мінск 1977, с.34—40.

2. В.П. Красней, ... там жа.

3. В.П. Красней, ... с.64.





Мілае Сэрцайка! Гэты хлопец хадзіў за мною, як цень. Быў вельмі цікавы на выгляд — і высокі, прыстойны, і былі ў яго прыгожыя рысы твару. Такі хлопец не мог не падабацца — і дзяўчаты ліплі да яго. Мне ён таксама падабаўся, але я нават не марыла аб тым, што буду з ім „хадзіць" — замнога было жадаючых, ды вось і сябраваў ён дагэтуль з маёй аднакурсніцай. Часамі мне было нават прыкра, бо яны прыходзілі да мяне ў госці, а ён займаўся толькі мною (замест сяброўкай). Але адначасова мне гэта імпанавала.

І вось аднойчы здарылася так, што гэты хлопец, адвёўшы сваю сяброўку дахаты пасля візіту ў мяне на кватэры, — вярнуўся да мяне. Я наставіла на яго вочы, была ж ужо ў начной кашульцы, больш апіякіх гасцей не спадзявалася. А ён прытуліўся да мяне моцна, пацалаваў у губы і такім чынам застаўся нанач.

Я была захоплена гэтым фактам і, вядома, аддалася яму. У пасцелі ён не быў, аднак, настолькі цікавы, як мне гэта ўяўлялася раней. Проста вельмі хутка „адвальваў" гэту работу, не зважаючы на тое, ці я ўжо задаволена, ці яшчэ не. Праз нейкі час пачынаў ізноў. Ізноў — таксама. Хаця яго „габарыты" не былі занадта імпануючыя, то ўсё ж відаць было, што ахвоту мае. Пераконваў мяне, што я непатрэбна злуюся, бо лічыцца не час сексуальных зносін, а „разы". Чым больш разоў — тым лепш.

Сэрцайка! А вось мяне яго „разы" нешта не пераконваюць. Было мне пасля той першай ночы даволі сумна. Была я крыху расчаравана. І нават больш не хацелася з гэтым хлопцам сустракацца. Яшчэ раз быў намовіў мяне, ды сустрэліся. Але больш ужо не хачу! Дарагое Сэрцайка! Адкажы, калі ласка, ці сапраўды ў гэтых справах лічыцца толькі колькасць „разоў", і гэта ўжо будзе сведчыць аб сексуальнай патэнцыі мужчыны?

**Аліна**

Аліна! Хлопец не мае рацыі. Нідзе і ні ад каго я не чула, каб прыемнасць з палавых зносін лічылася на „разы". „Разы" таксама могуць быць шматлікія (калі хто любіць), але можа быць адзін „раз", ды добры, гадзінкі на чатыры. Пэўна, з тваім хлопцам такое не здараецца, дык і не растлумачыш яму. Але ты ў гэтай справе не памыляешся. Найбольш істотнае ў мужчынска-жаночых адносінах — каб была прыемнасць для аднаго і другога. Мужчына не мае права думаць толькі пра сябе — ні час, ні „разы" тут не памогуць, калі не разбудзіць сваю партнёрку.

Калі ты ў яго не закахалася, і ён не твой муж, дык і добра зрабіла, што з ім не сустракаешся. Навошта час марнаваць?..

**СЭРЦАЙКА**




Дарагі Астроне! Даўно я ўжо да цябе не пісаў. Маёй цешчы снілася, што, калі яна спала, прыбегла дзіця і кажа: „Ваш бацька ідзе п'яны сюды, ён ужо не жыве!" Цешча падумала сабе: „Няхай ідзе". І легла. Тады бачыць, што ўваходзяць двое мужчын. Адзін сядае на крэсла і другі таксама. Нічога не гавораць. А пасля ўваходзіць яе бацька. Прайшоў каля яе ложка, тады падышоў да акна, але вярнуўся, забраў гэтых мужчын і яны пайшлі. На гэтым цешча прачнулася. Што можа абазначаць гэты сон маёй цешчы?

А вось мне прыснілася, што цешча прыехала да нас. Яна быццам бы стаіць на кухні ды кажа: „Хтосьці адключыў газ і трэба яго закруціць, каб не ўцякаў у паветра". Я прачнуўся і чую, што сапраўды газ крыху смярдзіць. Дык іду на кухню, а там нікога няма і не ўключаны газ. Што гэта абазначае?..

**А.Г.**

А.Г.! Цешчу тваю спасцігнуць вялікія клопаты. Гэта несумненна. Аб гэтым сведчыць тое, што паявіўся ў сне бацька. Магчыма нават, што будуць гэтыя клопаты звязаны са смерцю некага блізкага або прынамсі знаёмага тваёй цешчы, бо нябожчык-бацька забраў гэтых мужчын з сабой.

Што датычыць тваіго сну, А.Г., дык ён, бадай, быў звязаны з рэчаіснасцю. Мусіла сапраўды нешта смярдзець. Можа, гэта быў іншы газ.

**АСТРОН**

# Зорка
## старонка для дзяцей



*Зіма яшчэ трымаецца.* **Фота. Я. Целушэцкага.**

## САКАВІК

У гэтым месяцы таксама вясна сустракаецца з зімой, але цяпер ужо большасць сустрэч заканчваецца на яе карысць. Снег цямнее і асядае, кожны дзень звіняць капяжы і ўздоўж дарог прабіваюць шлях першыя ручайкі. Начны мароз хутка муруе першыя прамыіны, але назаўтра веснавое сонца бярэ сваё і будучае рэчышча становіцца ўсё шырэй і глыбей.

Лёд на рэках і азёрах амаль чорны. Хадзіць па ім становіцца ўсё небяспечней. На паўднёвых схілах узгоркаў з'яўляюцца першыя праталіны, а хутка выглядне на свет божы і ўрадлівая ралля. Ад зямлі, прыгрэтай сонцам, падымаецца пара, прымушаючы трымцець сапраўдную хлебаробскую душу.

З дня ў дзень усё вышэй падымаецца сонца, даўжэйшым становіцца дзень. 22 сакавіка — дзень вясенняга раўнадзенства. І дзень, і ноч раздзялілі суткі пароўну.

Ідучы па лесе, нельга не прыкмеціць, што ўжо бруіць у драўляных жылах жыватворны сок. Невыпадкова і месяц гэты называецца ў нас сакавік. Вось-вось раскрые свае коцікі вярба, налюцца сілай пупышкі бяроз, вольхі, асіны.

У промнях вясенняга сонца плюхаюцца ў лужынах вераб'і. Уздоўж чыгункі, аўтамабільных дарог, у парках і скверах падымаецца гвалт — гракі прыляцелі. Размяшчаюцца яны цэлымі калоніямі, часам па некалькі соцень гнёздаў у адным месцы. Іншым птушкам цяпер цяжка будзе вытрымаць канкурэнцыю з імі ў межах горада ці вёскі.

Пасля гракоў мы прыкмячаем жаўранкаў, пазнаючы іх па залівістай мелодыі, што даносіцца з блакіту. Потым з'явяцца паважныя шпакі. Жыццё абуджаецца.

# Ліхтарык

**Спецыяльна для „Зоркі"**

Калі Вова падрос да школьных гадоў, а гэта было перад другой вайной, яму вельмі захацелася мець ліхтарык, каб так, як Колька, магчы ісці па цёплай, вясенняй, балоцістай вуліцы і не трапляць лапцямі ў лужыны.

Гэта нават не зусім так, бо Вова не толькі хацеў мець ліхтарык таму, каб не бултыхаць у халодныя лужыны. Ён яму быў патрэбны для многіх іншых спраў: між іншым — для прэстыжу сярод калег, бо быў найбяднейшы з іх, а вельмі ж хацеў быць — роўным, каб яго не празывалі „лахманом".

Збіраў па грошыку, хаця вельмі цяжка яму гэта давалася, бо ўсе дарослыя на грошы былі скупыя, ды і ніхто ўдосталь іх не меў: бацька быў бедны, а дзед, калі б хацеў, то й цэлы ліхтарык мог бы ўнуку купіць ужо нават за тое, што ён пасвіў ягоныя каровы. Але не хацеў.

Вова знайшоў у зеллі чатыры яйкі і прадаў яўрэйцы Гені з Орлі, якая купляла ад насельніцтва анучы, яйкі па два грошы за штуку. Вова ўцешыўся — дарма зарабіў аж восем грошаў. Цешыўся таксама дарма, бо ягоныя грошы бацькі хуценька абярнулі ў нафту для лямпы-капцілкі.

Настала вялікае свята Пятра і Паўла. Вову было ўсё роўна: свята ці будзень, бо ён і так пасвіў кароў. Але для тых, хто ішоў у царкву, а пасля гасцяваў — свята было вельмі важнай справай. Вось якраз у той святочны дзень выпала суседу пасвіць свіней з усяе вёскі. Былі іх сотні. Сусед рашыў перад святочным вечарам наняць Вову на наступны дзень да свіней. Абяцаў яму „аж" 50 грошай. Вова вельмі ўцешыўся і ў сваю чаргу пабег прасіць калег, каб заняліся „яго" каровамі.

Пузаты Васіль святкаваў, а Вова цалюткі дзень ганяў па полі свіней, якія па сваёй натуры распаўзаліся хто куды ды ўцякалі дадому.

З абяцаных 50 грошай пасля некалькіх месяцаў Вову ўдалося „вырваць" ад „Бусла" (так празывалі Сцяпанавага Васіля) — 25.

Хлопчык доўга мазоліўся, але ўсё ж такі сабраў адпаведную колькасць грошыкаў і купіў ліхтарык адразу з лямпачкай і батарэйкай. Цешыўся так, як быццам наеўся тлустага сала з хлебам. Баяўся, каб не адабралі яго скарб хлопцы і не білі бацькі за лішні выдатак. Узяў ліхтарык ды схаваў яго ў стары куфар пад вопратку. Заглядаў туды вечарам, прыгнаўшы кароў, і пакрысе пабліскваў па кутках каморы, каб ніхто не бачыў, і зараз хуценька хаваў.

Аднойчы мачыха шукала чагосьці ў сундуку і выпадкова запаліла ліхтарык. Убачыўшы агонь, пачала дзьмухаць. Калі вогнік не згас, жанчына пабегла за вадой. Хлюснула ў куфар вядро вады — а там далей гарыць! Кемлівая гаспадыня выбегла на вуліцу і агаласіла пажар. Збегліся суседзі, і, пабачыўшы, у чым справа, парагаталі і з гоманам разышліся.

А вечарам Вову білі за ліхтарык, які купіў без ведама бацькоў, і за сорам, якога наелася мамка перад суседзямі дый за ваду ў куфэрку. Ліхтарык бацькі забралі сабе.

*З апавядання дзеда Тараса запамятаў*

**Васіль Петручук**

## Для самых маленькіх

Віктар Гардзей

### САКАВІЦКІЯ ГАСЦІНЦЫ

Між купін у нізінцы
Апошні снег не знік.
Вясновыя гасцінцы
Рыхтуе сакавік.

Ляшчыннік пасівелы
Замёрз было зусім.
Арэхаў жменьку спелых
Збярэм цяпер пад ім.

На высне, дзе забулькаў
Імклівы ручаёк,
З гусінаю цыбулькаю
Сядзіць лясны часнок.

Ля пня старога збоку
Гадуе шчаўё зай.
Захочаш выпіць соку —
Бяжы з гляком у гай.

Прайдзіся на ўзбалоткі
Між вольхаў і асін —
Там набярэш салодкіх,
Падмёрзлых журавін.

### ЧАСНОК

На градзе сядзеў часнок
Пасярод гароду.
У расе сцюдзёнай мок,
Мёрз у непагоду.

Тонкі быў.
Ды вось чаго
Сталі пухнуць шчочкі?
Паглядзелі, а ў яго
Выраслі зубочкі.



**Віктар Шніп**

### ВОЖЫК-ГРЫБНІК

Вожык назбіраў
Баравікоў
І нясе іх
Радасны
Дамоў.
Зайцу даў —
Паснедаць зай прасіў.
Па грыбку ўзялі
Браты ласі.
Баравік вавёрачка ўзяла —
На гару ўзыйсці
Дапамагла.
Воўк смяецца:
— Ну з цябе грыбнік,
Хоць сабе б
Пакінуў баравік!
— Не шкада нічога
Для сяброў,
А грыбоў
Я назбіраю зноў.



# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## МЫШКА ПІК-ПІК РОБІЦЬ ПРЫПАСЫ

Мама Веранічкі кожны дзень хадзіла па магазінах, стаяла ў чэргах і спрабавала нешта купіць. А калі вярталася дадому з пакупкамі, тата задаволена казаў:

— Ну вось і ў нас прыпасы ёсць, як у людзей. Неяк пражывем!

— Відаць, прыпасы — гэта вельмі важная рэч, — вырашыла Пік-Пік. — Трэба і мне зрабіць прыпасы! А то не пражыву!

І вось ночай мышка прачнулася і пачала дзейнічаць.

— Норка ў мяне ўжо паўнюткая. Дзе ж я буду прыпасацца? Акрамя таго, норку могуць захапіць ворагі, і не будзе мне чаго есці. Не, месца для прыпасаў павінна быць таемнае і бяспечнае!

Бегала, бегала мышка па кватэры, заглядала ва ўсе шчыліны. Нідзе не было падыходзячага месца. Але, нарэшце, пад татавым ложкам знайшла Пік-Пік вялізныя татавы пантофлі.

— О, гэта тое, што мне трэба! — узрадавалася мышка. — Месца цёмнае, патаемнае, знізу — гума, значыць, вада не падмочыць. Акрамя таго, маю адразу два схоўішчы.

І мышка пачала цягаць з кухні прыпасы. Запіхнула Пік-Пік у пантофлі палову плаўленага сырка, катлету, пяць цукерак, кавалак чорнага хлеба, дзве сушкі, пернік, чатыры слівы з кампоту, свежае яйка з халадзільніка, шэсць арэхаў, учарашні сырнік, пакусаны Веранічкай, адну мармаладку, салёны агурок, яблычны агрызак і жменю семачак. Зразумела, мышка не забылася складаць прыпасы і ў свой жывоцік, таму пайшла спаць цалкам задаволеная.



*Смачны хлеб у бабулі!*
**Фота Л. Шнін.**

Раніцой тата спусціў на падлогу ногі, намацаў пад ложкам пантофлі і паспрабаваў іх надзець. Пры гэтым у левай пантофлі раздушылася яйка. Тата скінуў хутчэй пантофлі і закрычаў ад страху. Прыбеглі мама, Веранічка і котка Пепіта, супакоілі беднага тату, пачысцілі яму пантофлі. Тата памыў ногі, абуў бацінкі і пайшоў на працу вельмі пакрыўджаны.

Наступнай ночай вылезла мышка Пік-Пік з норкі і пабегла правяраць свае прыпасы. Пантофлі стаялі на ранейшым месцы, але былі зусім пустыя!

— Гвалт! — запішчэла мышка. — Абрабавалі! Абанкруцілі!

Прачнуўся тата, бачыць: выпаўзае з-пад ложка тоўстая злосная мыш, валачэ ў абедзвюх лапках яго пантофлі і пішчыць:

— Дзе мае прыпасы?

— Дык гэта ты панапіхвала ў мае пантофлі рознай дрэні? — здагадаўся татка. — Ну, я табе зараз...

Спалохалася мышка, кінула пантофлі, пліганула ў норку. Сядзела там і думала:

— Ну, нічога! Наступны раз я такое месца знайду, што ніхто не дабярэцца да маіх прыпасаў!

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

***************************************************************************

# САБАКА ПОБАЧ З НАМІ

З больш чым мільёна жывёл, існуючых на Зямлі, чалавек прыручыў усяго некалькі дзесяткаў. І першым сярод іх быў сабака, які стаў сапраўдным сябрам нашых продкаў каля 12 тысяч гадоў назад. Ён жа быў і першай жывёлай, што стала жыць непасрэдна разам з чалавекам, спачатку ў пячорах, а потым у пакоях. У адрозненне ад кошкі сабака больш прыхільны да свайго гаспадара, чым да месца жыцця. Ён не такі эгаістычны, як кошка, наадварот, часта гатовы аддаць жыццё за гаспадара ці яго блізкіх. Таму сабака з цягам часу зрабіўся самым блізкім для нас прадстаўніком жывёльнага свету.

Але паўнапраўным жыхаром нашых кватэр сабака стаў параўнальна нядаўна, а дакладней кажучы, у апошнія два стагоддзі, прайшоўшы да гэтага этапы ўтрымання ў дваровых будках ці на псярнях. Утварэнню поўнасцю хатніх парод сабак садзейнічала ўрбанізацыя планеты, а ў гарадах, вядома, нельга трымаць сабак па-за межамі ўласных пакояў. Таму ў XX стагоддзі канчаткова сфарміравалася і атрымала шырокае распаўсюджанне група дэкаратыўна-пакаёвых сабак. Зараз у свеце, па даных ААН, налічваецца каля 500 мільёнаў сабак, з іх 100 мільёнаў дэкаратыўных. Умоўна яны падзяляюцца на падгрупы пудзеляў, тэр'ераў, заходніх (леўрэтка, мопс, чыхуахуа, спаніэль, пінчар, балонка, бульдог, шэлці, шпіц, сенбернар) і ўсходніх (пекінэс, хін, шы-тцу, чау-чау, лхаскі апсо) сабак.

Утрыманне сабак у кватэры не такая простая справа, як здаецца на першы погляд, таму да гэтага трэба аднесціся з пачуццём пэўнай адказнасці як перад сваімі суседзямі і блізкімі, так і перад сабакам — жывой істотай, здольнай адчуваць і ласку, і боль, і абыякавасць. Перш чым заводзіць сабаку, трэба ўсебакова ўзважыць свае магчымасці па яе ўтрыманню. Нельга заводзіць шчанюка, а тым больш сфарміраваную дарослую сабаку, паддаўшыся першаму імкненню пры сустрэчы з добра вывучанай і паслухмянай балонкай ці аўчаркай. Трэба ўлічваць, што за гэтым стаіць вялікая праца і цярплівасць, згода мірыцца з нязручнасцямі. Тады не будзе ў нашых дварах сабак, кінутых былымі гаспадарамі „з-за непатрэбнасці".

**Э. Самусенка**

---

**Віктар Шнін**

## ХТО ПАКРЫЎДЗІЎ ХМУРЫНКІ

— Ах якія чорныя
Хмурынкі!
Не люблю я вас
Зусім! —
Ножкай босай
Тупае дзяўчынка,
Пальчыкам махае ім.
— Вы мурзатыя,
Нібыта свінкі... —
Кажа Светка.
І праз міг
Ціхенька заплакалі
Хмурынкі.

Хто ж пакрыўдзіў іх?

# ПІШУЦЬ ШКОЛЬНІКІ

*Бельск-Падляшскі 10.02.92 г.*

## ДАРАГАЯ „ЗОРКА"...

Пішуць табе вучні III „д" класа Пачатковай школы нумар 3 у Бельску-Падляшскім. Мы ўжо з табою знаёмыя, пісалі табе ліст, слалі рысункі з мышкай Пік-Пік, наведалі рэдакцыю.

Хочам з табою падзяліцца весткай пра цікавае здарэнне з жыцця нашага класа. Супольна з III „э" класам запрасілі мы да сябе на сустрэчу вядомага паэта, аўтара кніжкі для дзяцей „Вясёлка", Віктара Шведа.

Паважаны госць прыехаў да нас 23 студзеня. Раней наша пані пазнаёміла нас з некаторымі вершамі з кніжкі „Вясёлка". В. Швед быў нам таксама вядомы з „Зоркі".

Сустрэча пачалася ў 11.45 і працягвалася паўтары гадзіны. Госця прывіталі мы песняй „Звяртаецца рана да мамы малыш" на Яго словы. Потым Віктар Швед расказваў нам пра сваё жыццё, дачушку Натальку, сваю творчасць і чытаў вершы. Адказваў таксама на нашы пытанні. На канец падпісваў нам сваю кніжку.

У падзяцы за сустрэчу, наш сябра Міхась Базылюк уручыў паэту кветкі ад імя двух класаў.

Сустрэча была вельмі цікавай і мы раім дзецям з іншых школ запрасіць В. Шведа да сябе. Многа на гэтым скарыстаюць.

Пасылаем табе вершы, якія мы пісалі на ўроках беларускай мовы.

Студзень зямлю астудзіў.
Усяму свету аб'явіў:
У яслях нарадзілася Дзіцятка,
А Марыя Яго матка.
Студзень! Студзень!
Снегам цярушыць.
Ён шчыпае ў нос і ў вушы.

**Кася Ігнацюк**

Вецер гудзе, мароз шчыпае,
Рэчкі лёдам акрывае.
Студзень кепскі, ён халодзіць,
Снегам дзьме і ўсіх марозіць.
Мы вясёла ўсе гуляем
І на ўзгорак паспяшаем.

**Аля Кардзюкевіч**

Студзень — студзіць,
Мароз будзіць,
ну і снег падае,
калі студзень настае.
Студзень — цвёрды лёд,
яго баіцца і самалёт.

**Міхась Базылюк**

**Прывітанні!**
**Клас III „д"**

***************************************************************************



# А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А

На чым дабіраюцца на працу тата, мама і бабуля, а на чым у школу едзе Петрык?

# ВЕРСІІ ✵ КУР'ЁЗЫ ✵ СЕНСАЦЫІ

## РАЗВЕДЧЫКІ-ЗДРАДНІКІ

**(працяг)**

Уладзімір Пятроў памёр на 84 годзе жыцця ў адным з прытулкаў у Мельбурне (Аўстралія). Памёршага ў апошнюю дарогу праводзіла невялічкая група мужчын у чорных касцюмах. Былі гэта супрацоўнікі аўстралійскай тайнай службы АЗІО.

На працу ў амерыканскай разведцы перайшоў савецкі дыпламат Аркадзь Шаўчэнка. Ён да канца свайго жыцця астаўся ў ЗША — чаму? Вось яго расказ:

— Калі ў 1973 годзе я меўся ляцець з Масквы ў Нью-Йорк, запрасіў мяне да сябе генерал КДБ Барыс Іваноў. Падчас размовы генерал праявіў вялікае зацікаўленне Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый, павіншаваў мяне ў сувязі з маёй новай місіяй у ААН.

Я ўбачыў, як афіцыянтка паставіла на столік каньяк і пірожнае, мінеральную ваду і апельсіны. Генерал паднёс чарку і сказаў, што КДБ лічыць на маю дапамогу.

Калі я на хвіліну задумаўся, што адказаць на гэтую нечаканую прапанову, Іваноў даў мне два пісьмы. Не было ў іх прозвішчаў адпраўшчыкаў. У лісце, напісаным на рускай мове і заадрасаваным у Цэнтральны камітэт КПСС, ананімны інфарматар пісаў, што мне вельмі добра жывецца, у маёй кватэры поўна каштоўнейшых іконаў, а мая жонка Ліна і дачка Аня хваляць жыццё ў Амерыцы ды крытыкуюць савецкую сістэму.

Другі ліст быў напісаны на англійскай пішучай машынцы. У ім успаміналася, як я паабяцаў савецкай яўрэйцы Тамары ў атрыманні дазволу на выезд з СССР і ўзяў за гэта ад яе тысячу долараў.

Не таю, што ў першым даносе было шмат праўды. Напісаў яго хтосьці, хто быў у маёй кватэры. Адразу мне прыйшла ў галаву думка, што напісаў данясенне Леанід Кутакоў, якога я меў замяніць на пасадзе намесніка генеральнага сакратара ААН. Таксама яго жонка Аза наведвала Ліну, прыходзіла так сабе пагутарыць.

— Не магу ўцяміць, хто мог гэта напісаць? — я не скрываў свайго здзіўлення.

— Добра, — сказаў Іваноў. — Праверым пішучыя машынкі ў савецкім пасольстве ў Нью-Йорку. Але раю папярэдзіць жонку і дачку, каб лепш трымалі язык за зубамі.

Пасля гэтай размовы я зразумеў, што КДБ хоча злавіць мяне на сваю вудачку. Не можаш адмовіць у супрацоўніцтве. Прымушалі вось такімі метадамі.

У Нью-Йорку я намерыўся адшукаць і скампраметаваць даносчыка. За дапамогай звярнуўся да высокага рангам супрацоўніка КДБ Барыса Саламаціна. Праз месяц, калі я настайваў, ён мне параіў, каб гэтай справай не дурыць галаву бюракратам у Маскве. Гэтым можна сабе толькі пашкодзіць. У канцы канцоў мая рэпутацыя не пацярпела.

Наведаў я Берта Джонсана, высокага рангам работніка ЦРУ. Задумаў не вяртацца больш у Савецкі Саюз. Аднак, летам 1976 года, у часе водпуску, паляцелі мы — я, жонка і дачка — у Маскву. Захацелі мы пазнаёміцца з жонкай нашага сына Генадзія. Сваю пабыўку я выкарыстаў для шпіянажу. ЦРУ хацела ведаць, што зараз новага ў савецкай палітыцы, а таксама ёй былі патрэбныя дакладныя дадзеныя пра кожнага з кіраўнікоў Цэнтральнага камітэта партыі і Міністэрства замежных спраў.

У канцы сакавіка 1978 года я атрымаў тэлеграму з Масквы. У ёй гаварылася аб тым, што мне неабходна ляцець у Маскву, каб абмеркаваць падрыхтоўку да сесіі Генеральнай асамблеі ААН, і іншыя справы. Я прадчуваў, што справа тут у чымсьці іншым. Кансультацыі адносна сесіі, прысвечанай у асноўным раззбраенню, адбыліся намнога раней. Якую пазіцыю зойме СССР па гэтаму пытанню, было вядома. Хтосьці зусім без дай прычыны дапісаў: „... і абмяркоўкі іншых спраў". І вось гэтыя словы насцярожвалі мяне. У Маскве зрабілі памылку, дапісваючы гэты злавесны сказ у выкліку. Я не разумеў, як нехта мог выпусціць такі ляпсус, але мне вельмі пашанцавала, што якраз так сталася.

Калі мяне раскрылі, гэтая тэлеграма можа паслужыць мне смяротным прыгаворам. Я не намерваўся праверыць, што мяне там чакае. На гэты рызыкоўны крок я не мог сабе дазволіць. А можа мой інстынкт мне маніць?

Што зрабіў Шаўчэнка, чытайце ў „Ніве" праз тыдзень.

**Апрацаваў**

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**




## БУЛЬБЯНЫЯ АЛАДКІ

**З сырам**

Узяць: 4 бульбіны, сцертыя на **бурачанай** тарцы, 3—4 лыжкі мукі, 1 збітае яйка, 1 расцерты зубок часнаку, 1/4 шклянкі вельмі дробна пасечанай цыбулі, паўшклянкі сцертага на бурачанай тарцы жоўтага сыру, смятану, соль, перац, тлушч.

1. Сцертую бульбу перамяшаць з мукой, яйкам, цыбуляй, часнаком, дадаць соль, перац, сыр і крыху смятаны. Маса павінна быць вельмі густая.

2. Тлушч разагрэць на патэльні, лыжкай класці зробленае цеста і смажыць на сярэднім агні аладкі залацістага колеру.

Аладкі можна есці без дадаткаў, са смятанай ці салатай.

Прапорцыя для 3—4 асоб.

**Па-нігерску**

На паўкілаграма бульбы ўзяць паўлыжачкі прыправы „чылі" ці парашку з чырвонай папрыкі, паўшклянкі пасечанай цыбулі, 1 вялікі, абабраны памідор, пасечаны і без соку, 1 лыжку мукі, 1 збіты жаўток, 1 бялок, паўлыжачкі маярану, соль, алей.

1. Бульбу сцерці на бульбяной тарцы, зліць сок, перамяшаць бульбяную масу з рэштай прадуктаў, апрача бялку і алею.

2. З бялку збіць пену, лёгка перамяшаць яе з цестам.

3. Цеста класці лыжкай на разагрэты алей і смажыць на цёмназалаты колер на сярэднім агні.

Падаваць з салатай ці смятанай.

Прапорцыя для 2—3 асоб.

**Па-кітайску**

Да паўкілаграма бульбы трэба дадаць 2—3 дробна пасечаныя пячурыцы (можна больш), 1 лыжку пасечанай зялёнай пятрушкі, 1/8 лыжачкі змеленай каляндры, 1 дробна пасечаную цыбуліну, 5—10 дэкаў пасечанай каўбасы, 1 лыжку мукі, 1 лыжачку алею, паўлыжачкі прыправы для супоў „магі", паўлыжачкі солі, 1/8 лыжачкі перцу, алей.

1. Бульбу сцерці на бурачанай тарцы, перамяшаць з рэштай прадуктаў апрача алею.

2. 1/4 бульбяной масы палажыць на патэльню з разагрэтым алеем, зрабіць блін дыяметрам каля 15 см і таўшчынёю 1/2 см і смажыць каля 4 мінут з кожнага боку. Пералажыць на падагрэтую талерку, смажыць наступныя.

Бліны падаваць з салатай.

Прапорцыя для 2-3 асоб.

**ГАСПАДЫНЯ**

*(Паводле кнігі Кацярыны Паспяшынскай „Якія часы, такая кухня").*

## РОЗДУМ ПРА БРАТЭРСТВА АБО ПАДРОБКА ПАД НІЛА ГІЛЕВІЧА

Ёсць справы,
якіх не саромлюся я.
Хоць, праўда, раблю я нячаста.
Такая паэтава доля мая —
ў слязах ад братэрскага шчасця.

Няпраўда, што кінуць братэрства браты.
Кастрычнік калі адпалае,
у снежні мы новыя зробім масты —
і нашы народы
з'яднаем.

Здалося —
даўно быў семнаццаты год.
Цяпер з намі скача Пагоня.
Як слаўна вітаць Новай Эры прыход!
Як радасна пушча гамоніць!

Братэрства народаў, братэрства людзей
выходзіць з маёй Белавежы —
і разам да шчасця усіх нас вядзе
праз нашы дзяржаўныя межы!

**АЛЕСЬ ЧОБАТ**






*Мал. Ігара Варашкевіча.*

## ІМПАРТГУМАР

— Пяць хвілін таму рабаўнік зняў з маёй рукі залаты гадзіннік.
— Чаму ж вы не паклікалі на дапамогу каго-небудзь адразу?
— Я баяўся адкрыць рот. У мяне залатыя зубы.

* * *

Вакол п'янага, які зваліўся з трэцяга паверха, сабраліся людзі.
— Што здарылася? — спытаў міліцыянер, які толькі што надышоў.
— Не ведаю, — хутка адказаў п'яніца, абтрасаючыся. — Я сам толькі што сюды трапіў.

* * *

Старэнькая бабулька ў Славуце прадае яблыкі:
— Купляйце чарнобыльскія яблычкі!!!
— Навошта вы гаворыце, што яны чарнобыльскія. У вас іх ніхто не будзе купляць! — адзываўся знаёмец.
— Яшчэ як купляюць... Хто для цешчы, хто для свекрыві...

* * *

— Ведаеш, я купіў аўтамашыну. Хачу пабачыць свет.
— Той ці гэты?

* * *

Заходзіць муж у хату:
— Жонка, ты бачыла скамечаны рубель?
— Бачыла.
— А скамечаную дваццаціпятку?
— Бачыла.
— А скамечаныя дзесяч тысяч?
— Не!
— Тады ідзі ў гараж і паглядзі.

* * *

— Колькі ты зарабляеш у дзень?
— Гэта залежыць ад таго, хто дзяжурыць на праходной.

* * *

Жанчына прыйшла ў міліцыю з заявай, што ў яе знік муж.
— У вашага мужа ёсць якія-небудзь асаблівыя прыкметы? — пытаецца ў яе дзяжурны сяржант.
— Не, але з'явіцца, калі ён вернецца.

* * *

— Як толькі ў вас паднялася рука праз тыдзень пасля вяселля збіць сваю жонку?! Тры месяцы турмы!
— Пан суддзя, няўжо вы хочаце нам сапсаваць мядовы месяц?

**Падборку зрабіў ЯСЕНЬ**

## ЛЕКАРСКІЯ АНЕКДОТЫ

— Вы курыце? — пытаецца лекар пацыента.
— Не.
— Шкада...
— Чаму?
— Калі б вы зараз маглі кінуць курыць, гэта вам бы вельмі дапамагло.

* * *

Хворы белай гарачкай прыйшоў да лекара.
— Доктар, па мне нейкія кракадзільчыкі поўзаюць (страсае іх з сябе).
Лекар:
— Але што ж вы іх на мяне кідаеце!

* * *

У лекарскі кабінет заходзіць дзяўчына.
— Распранайцеся, калі ласка, — кажа ёй лекар.
— Навошта?! — пачырванела дзяўчына. — У мяне баліць вуха.
— У такім выпадку вы не да мяне. Я акуліст.

*Даслаў В. Бабей*



*–О, бачу, наш пацыент вяртаецца да здароўя!*

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

### ДАВЕРЛІВАСЦЬ

Перад II сусветнай вайной мала людзей умела пісаць і чытаць. У адной вёсцы памёр стары солтыс. Выбралі новага. Прыехаў да яго ўраднік і загадаў сабраць ад людзей грошы на падатак.

Сабраў солтыс грошы і пытае ў сям'і свайго папярэдніка, куды іх везці.

— Ён вазіў іх ў горад, у такі аграмадны будынак. Там прыгожа апранутыя паны сядзяць у крэслах або ходзяць, прымаюць грошы і даюць распіскі, — растлумачыла ўдава.

Паехаў солтыс у горад і ніяк не мог трапіць у той будынак, дзе паны бяруць грошы. Куды ён не зайшоў, адусюль яго выганялі. Урэшце трапіўся яму прыгожа апрануты і ветлівы мужчына, у якога солтыс спытаў:

— Ці не маглі б вы ўзяць ад мяне падатак?
— Магу, — адказаў той ласкава.
— Дайце мне толькі распіску, бо інакш не аддам грошай.
— Добра, — згадзіўся сустрэты чалавек.

Узяў ён лісток паперы і напісаў: „Сустрэў мудры дурнога і ўзяў падатак ад ёга, а вы, людзі, грошы збірайце і новы падатак давайце".

Солтыс узяў распіску і задаволены, што ўрэшце ўдалося яму вырашыць справу, вярнуўся дахаты. Калі людзі даведаліся, што ім трэба яшчэ раз плаціць падатак, ды са штрафам за нетэрміновасць, амаль не забілі някемлівага солтыса.

### ПРЫМАКОВА ДОЛЯ

— Усяму гэты прымачыска вінаваты, — бурчыць цесць у адрас свайго зяця.
— То ж яго тут няма!
— Але боты яго стаяць.

### ГОСЦІ

Да Мікіты прыехалі госці. Гасцююць тыдзень, другі, ад'язджаць і не думаюць. Ніяк іх нельга пазбыцца. Урэшце гаспадар схітрыў. Стаў сам збірацца ў далёкае падарожжа.
— Ты куды едзеш? — пытаюць госці.
— Калі вы не хочаце ехаць ад мяне, дык я паеду ад вас, — адказаў Мікіта.

**АЎРОРА**

## КАСЯК НА „У"




**Управа:** 1) яе муж памёр, 3) вецер, які разбурае, 5) колькасць, аб'ём, на які паменшала пры варцы, 7) вучэбны час (найчасцей 45 хвілін),

**Улева:** 2) моцны, рэзкі штуршок, 4) частка тэксту, твора, 6) сканцэнтраванасць думак, слыху або чулыя адносіны, 8) радыеактыўны хімічны элемент.

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з 3 н-ра. Управа:** нічыя, напеў, небарак, нос, напітак, нагода, найм. **Улева:** ніз, набытак, немец, нораў, насарог, Нікан, напалм, пота.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Лукаш Пацэвіч з Беластока і Ірэна Лукша з Семяноўкі.

***************************************************************

**Ніва**

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1992 r. upływa 20 maja 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..

Cena prenumeraty miesięcznej:
- marzec – 15 000 zł.
– kwiecień – 12 000 zł.
– maj – 15 000 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.